

Бежанскія гісторыі
→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



БАСОВІШЧА 17-18 ліпеня

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 28 (3087) Год LX Беласток, 12 ліпеня 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


XI Беларусукі фэст «Купалінка» арганізавалі ў Ляневе 27 чэрвеня войт Чыжоўскай гміны і Гмінны асяродак культуры. Побач вадасховішча на рэчцы Локніцы сабралася многа людзей. Прыбылі аматары беларускіх песень і адпачынку на прыродзе. Важным момантам ляпеўскага мерапрыемства быў старажытны купальскі абрад з шэсцем і пусканнем вянкоў на ваду. Найстарэйшыя жыхары Гайнаўшчыны не памятаюць купальскага абраду. Цяпер «Купалле» ладзіцца таксама ў Ляневе, Нараўцы, Залуках, Дубічах-Царкоўных, Белавежы. Сёлета да Купалля вернуцца ў Нарве. «Сёстры Лук'янавічы» з Леснікоў (Беларусь) выступалі раней у Ляневе з купальскімі песнямі Палесся. Язычніцкія абрады купальскага свята сонца, агню і вады, адаптаваныя ў далёкім мінулым продкамі для хрысціянства, перадаваліся на Палессі з пакалення ў пакаленне і да сённяшняга часу захаваліся ў Лесніках. Шэсцю з вянкамі да вадасховішча спадарожнічала песня «Купалінка» на беларускай мове.



# XI «Купалінка» ў Ляневе

Купальскія вянкі выканалі ў ходзе абрадавых майстар-класаў вучні Комплексу школ у Чыжах і мясцовыя жанчыны. Вянкі красаваліся спераду вялікай сцэны, на якой выступалі ўсе выканаўцы фэсту, каб ноччу можна было пусціць іх на ваду. Дзеткі падчас конкурсу навыперадкі елі трускалкі. У мінулым Лянева было цэнтрам вырошчвання трускалак на ўсю Гайнаўшчыну. Зараз трускалкі вырошчваюцца перш за ўсё на ўласныя патрэбы мясцовых жыхароў. У Ляневе жыве многа пенсіянераў, якіх дзеткі і ўнукі наведваюць летам, асабліва тады, калі даспяваюць трускалкі. Плантатарам трускалак з'яўляецца яшчэ Анатоль Лапінскі, які штогод выступае спонсарам конкурсу і забяспечвае яго трускалкамі.

Купальскія скокі праз вогнішча, спяванне песень, пусканне вянкоў на ваду і шуканне папараць-кветкі ў мінулым тычыліся перыяду Пятровага посту, падчас якога нашы продкі адмаўляліся ад танцаў і гульняў. Пазней у посны перыяд сталі ладзіцца забавы і таму рэканструяванне купальскага абраду з гульнямі і танцамі падчас Пятроўкі ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя не выклікала на нашых вёсках абурэння. Зараз большасць наведвальнікаў «Купалля» нават не ведае, што вывodзіцца яно з часоў паганства і прыбывае на мерапрыемства ў Лянева паслухаць беларускія песні і паразмаўляць са знаёмымі. Некаторыя асобы нават раскладаюць побач вадасховішча пледы і пачынаюць гасціну на прыродзе пры музыцы. Старэйшыя людзі ў асноўным слухалі музыку на лаўках каля сцэны, многія сталі далей ад сцэны, дзе музыку таксама было добра чуваць.

У Лянева прыбылі мясцовыя гаспадары і сяляне-пенсіянеры. Рады яны, што ўжо завяршылі загатоўку корму для кароў у выглядзе традыцыйнага сена і рулоннага сенажу. Аб сенакосах і будучым ураджаю збожжа і бульбы можна было даведацца з размоў мясцовых земляробаў. Напрыклад, у Кленіках у большым маштабе гадуюць кароў, а ў Чыжах ці Збучы — вырошчваюць збожжа.

— У мінулым я гадаваў нават пад дзесяць кароў, але тады прыбытак ад продажу малака быў намнога большы, чым цяпер, калі за літр малака нават залатоўкі не заплацяць. Даплачваюць нам да прадукцыі збожжа, але яно таксама патаннела. Зараз з-за засухі трава сохне. Калі не пойдуць дажджы, ураджай бульбы і збожжа можа быць невялікім. Я свайму сыну раіў шукаць працу ў горадзе, бо зараз складана разгарнуць гаспадарку, калі зямля каштуе больш за дваццаць тысяч злотых за гектар. Калі б сын узяў пазыку і купіў дзесяць гектараў зямлі, то ў цяперашніх умовах не здолеў бы аддаць крэдыт, — сказаў гаспадар дапенсійнага ўзросту з Чыжоў.

У дзевяностых гадах мінулага стагоддзя некаторыя маладыя гаспадары ўзбуйнілі свае гаспадаркі, купляючы зямлю па дзвэтры тысячы злотых за гектар. Калі зараз у іх пад сто гектараў зямлі, яны нават з бягучых даходаў могуць выдаткаваць больш за дзвесце тысяч злотых, каб дакупіць новых дзесяць гектараў поля, чаго не зможа зрабіць мой суразмоўца, які гаспадарыць на невялікім участку зямлі.

«Купалінку» адкрылі войт Юры Васілюк і дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Чыжах Юры Якімюк. Мерапрыемства ўдастоілі гмінныя, павятовыя і ваяводскія самаўрадоўцы.

— Мы адкрылі гэтае прыгожае месца і рашыліся арганізаваць тут купальскае мерапрыемства. Блізка вадаёма ў мінулым быў прыгожы дварэц. Арганізуючы «Купалінку», мы паказваем прыгажосць месца. Надалей пераймаем участкі каля вадаёма і плануем прыдбаць сродкі на разбудову вадасховішча, якое служыла б мясцовым жыхарам і турыстам. Хочам, каб тут можна было плаваць на байдарках, лодках і адпачываць, — сказаў войт Юры Васілюк, адкрываючы мерапрыемства.

— Галоўнай мэтай «Купалінкі» з'яўляецца падтрымка культурнай тоеснасці нашых беларусаў. Выступы музычных калектываў з Падляшша з беларускім рэпертуарам падчас мерапрыемства на прыродзе накіраваныя да мясцовых жыхароў усіх узростаў і прыбылых да нас турыстаў. Мы стараемся захаваць даўнія традыцыі і абрады. Купальскі абрад сягае часоў паганства, стараславянскага свята ў ноч Купалы, — сказаў дырэктар ГАК у Чыжах Юрка Якімюк. — Ужо традыцыйна будзем пускаць феерверкі. Зараз сваю тэхніку паказваюць пагранічнікі і пажарнікі, якой асабліва цікавяцца дзеткі.

Падчас «Купалінкі» выступілі вясковыя фальклорныя калектывы, спявацкі калектыў гуртка пенсіянераў і інвалідаў у Чыжах «Верасы» і гурт «Крыніца» з Радзівілаўкі. Удала запрэзентаваліся калектывы «Жар» з Сарнак, Іза Карчэўская і Марта Адамюк з Чыжоў і Наталля Семянюк з Падрэчан. Спадабаліся публіцы вакальны калектыў Комплексу школ у Чыжах і салісткі з гэтай школы — Мартына Белавежац з Чыжоў і Наталля Сельвясюк з Мора.

— Пані Анна Фіта займаецца з нашымі дзеткамі толькі з верасня мінулага года, але паспяхова. Школьны калектыў і мая дачка Мартына, выступаючы сола, занялі другія месцы на конкурсе для школьнікаў «Беларуская песня», — гаварыла Іаанна Белавежац, бібліятэкарка Гміннай бібліятэкі ў Чыжах.

Прыгожа спявалі «Незабудкі» з Курашава, гурт «Тры пальцы» з Орлі, «Калінка» з Беластока і «Чыжавяне» з Чыжоў. Выступленні суправаджаліся бурнымі апладысментамі публікі.

— Мы рады, што публіка так горача ўспрыняла наш выступ. Мы падзякавалі працаўнікам Гміннага асяродка культуры і Гміннай управы ў Чыжах за вялікую працу, якую ўкладваюць у падрыхтоўку «Купалінкі». Гэтае мерапрыемства не было вядомае ні нам, ні нашым бацькам. Калі цяпер яно аднавілася, мы ахвотна выступаем у Ляневе, — сказала Ніна Грыгарук, кіраўнік курашаўскіх «Незабудак».

Цікава выступілі калектывы «Куранты» з Бельска-Падляшскага, «Гармонь» з Ласінкі і «Гай» з Беластока. Зоркамі купальскага мерапрыемства былі калектывы «Росніца» з Гродна, «Сканер» з Беластока і «Арт-Пронар» з Нарвы.

— У Ляневе цудоўная атмасфера. Мы ў Чыжоўскай гміне выступаем трэці раз. Запрашаем «Чыжавян» у Гродна, але для такой паездкі патрэбная падтрымка мясцовай адміністрацыі, — заявіла Тацціяна Бандарэвіч, музычны кіраўнік беларускага калектыву «Росніца» з Гродна.

— Падчас танцаў, якія завершаць «Купалінку», мы будзем выступаць з нашымі вядомымі творамі і заспяваем песні, якія выконвалі апошнімі гадамі падчас фестывалю «Беларуская песня», — сказала Мар'ёля Герман з «Арт-Пронару», якая прафесійна вяла ўсё мерапрыемства.

— У нас ёсць ужо распарадак выступаў ажно да восені і мы спяваем у асноўным на шматлікіх фэстах і мерапрыемствах, — сказаў Ян Снарскі, музычны кіраўнік «Арт-Пронару».

Асаблівае зацікаўленне ў публікі выклікае купальскі абрад, які з'яўляецца цэнтральным момантам ляпеўскага мерапрыемства. Ад сцэны да вадаёма ішлі з вянкамі калектывы, спявалі песню «Купалінка» ды пусцілі вянкі на ваду. «Купалінка» закончылася танцамі.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА





# Купальскія феерверкі

Пачну з даўняга і досыць фрывольнага анекдота. Сустракаюцца два дзядзькі, нават ужо дзядкі, гэтак гадоў за шэсцьдзесят кожнаму і адзін аднаму кажа: „Слухай, як усё ж змяніўся гэты свет!” — „А што такое?” — „Дык вось раней, гадоў трыццаць таму, з жанчынамі было намнога прасцей, з кожных пяці — чатыры пагаджаліся, а цяпер вось з кожных пяці — толькі адна. Як за гэты час вырасла мараль!”. Свет сапраўды мяняецца, але глядзець на яго можна па-рознаму. Прыкладам, усё больш людзей ходзяць па вуліцах у падраных джынсах — можна зрабіць выснову пра выразнае збядненне насельнікаў гэтай зямлі. Можна палюбавацца каленямі маладых прыгожых дзяўчат. Можна падзівіцца зменлівасці капрызнай моды. А яшчэ можна звінаваціць гэтых носьбітаў у браку густу на адзенне. І зрабіць яшчэ іншыя назіранні ці высновы.

Вось тое ж Купалле. Для адных — гэта паганскае свята, для іншых — фальклорны фэст, для трэціх — народная традыцыя. А для дзяржавы РБ — чарговы спосаб сваёй прапаганды. За савецкім часам Купалле было пад фактычнай забаронай. Толькі ў 1989 годзе ў разгар перабудовы нацыянальна актыўная моладзь, якую тады назвалі папулярным словам „нефармалы”, шырока адсвяткавала гэты дзень, адрадзіла традыцыю. Спакваля Купалле пачало святкавацца ўсё шырэй і разнастайней у розных рэгіёнах краіны. І натуральна быць найперш справай і забавай моладзі. Але і тут дзяржава пастанавіла выйсці на авансцэну — апошнія гады „галоўнае Купалле краіны”, як яго называюць прыўладныя вяшчальнікі, адбываецца ў вёсцы Александрыя, на так званай малой радзіме прэзідэнта і з удзелам яго самога. Сёлета размах быў значным — не толькі з элементамі ўласна Купалля і вогнішчам, але і з шырокай сцэнай і нават недарэчнымі для такога дня феерверкамі. Ні то аўтапрабег, ні то чарговая перамога ў вайне, ні то Купалле. „Ваша версія?” — запытаўся б незабыўны Астап Бэндэр у Адама Казлевіча — „Храмовой праздник” — сціпла апусціўшы вочы, адказаў бы той. Словам, неяк так.

ППРБ канешне выступіў са шчырай прамовай на гэтым шоў, павіншаваў прысутных, пажадаў спярша ўсім згоды і дабрабыту, але хуценька схамянуўся і папраўся — маўляў, згода і дабрабыт у вас ужо ёсць, таму жадаю вам любові. Гаварыў так нібыта пра сябе. Вось ужо дваццаць адзін год ён дамагаецца ад народа таго, чаго ўрэшце дамогся сябра дзяцінства Астапа Бэндэра Коля Остэнбакен ад сяброўкі яго ж дзяцінства — польскай прыгажуні Інгі Заёнц. Сапраўды маўклівая згода ўрэшце прыядаецца, становіцца прытарнай, матэрыяльны дабрабыт абцяжарвае і не прыносіць ужо ранейшай радасці. А вось любові заўсёды чалавеку мала. А тым больш галоўнаму чалавеку краіны, які дарэшты кладзе ўсе свае здольнасці і сілы на алтар усеагульнага шчасця.

Лепшага ж сродку пацвярджэння грамадскай любові, чым усенародныя выбары, прыдумаць немагчыма. Сярод чатырохсот спосабаў дасягнення такой любові — гэты найлепшы. Толькі вось акалічнасць — арганізатары і выканаўцы падліку галасоў так усё засакрэцілі, што цяпер аніводны чалавек у гэтай дзяржаве не ведае сапраўднай ступені народнай любові. Вось і трывожна з-за гэтага на няўрымслівай душы. Хоць і стараюцца мясцовыя ўлады і ўдзячныя людзі адпавядаць. Вунь у Гродне асобным шыхтом на дэманстрацыю 3 ліпеня ў дэкларaваны дзяржавай дзень незалежнасці выйшлі нават парадзіхі з немаўлятамі. Выйшлі гэтыя маладзіцы ў аднолькавых белых халацікаx і на высокіх абцасах. І гэта правільна — любоў да роднай дзяржавы павінна быць усмактана з першых дзён нараджэння, з малаком маці пад чырвона-зялёнай сімволікай, пад медныя трубы і бой парадных барабанаў. Праўда, злыя языкі цвердзяць, што сапраўдных немаўлятаў на шэсці замянілі імітацыйнымі кулькамі, але гэта ўжо неістотна. Сама ідэя чаго вартая, які крэатыў мясцовай ідэалагічнай „вертыкалі”!

Толькі народная любоў — яна як тыя феерверкі: свецяць ярка, але чамусьці не грэюць...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Лепшыя і горшыя беларусы



1 ліпеня ў Менску прайшло першае пасяджэнне Кансультатыўнай рады па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве замежных спраў. Пасяджэнне цікавае тым, што яно можа стаць паказнікам, як беларускія ўлады ставяцца да прынятага імі закону „Аб беларусах замежжа” і як збіраюцца яго рэалізаваць. Сам закон „Аб беларусах замежжа” нараджаўся доўга і ў болях. Праходзілі грамадскія і экспертныя кансультацыі, змяняліся варыянты законапраекта, і ўрэшце закон быў распрацаваны ў Міністэрстве замежных спраў і выкладзены ў якасці гатовага прадукту. Нават Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына” да апошняга часу не ведала, як сфармулявaны гэты законапраект. Нарэшце, увесну 2014 года, дакладна 16 чэрвеня, закон быў прыняты і ўступіў у сілу пад нумарам 162-З. У адпаведнасці з законам, тры ведамствы маюць займацца беларусамі ў замежжы. Гэта: Міністэрства замежных спраў, Міністэрства культуры і ўпаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Вядома ж, агульную дзяржаўную палітыку ў галіне адносін з беларусамі замежжа вызначае прэзідэнт. У адпаведнасці з законам створана і Кансультатыўная рада па справах беларусаў замежжа. У яе склад уваходзяць 32 прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў беларусаў замежжа з 18-ці краін. У Радзе засядаюць таксама беларускія чыноўнікі, прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў з самой Беларусі і сродкаў масавай інфармацыі. Асноўнымі задачамі Кансультатыўнай рады з'яўляецца каардынацыя супрацы дзяржаўных органаў з беларусамі па-за межамі рэспублікі. Гэтае супрацоўніцтва тычыцца найперш культурнай, адукацыйнай ды інфармацыйнай сфер. Рашэнні Кансультатыўнай рады прынятыя ў адпаведнасці з яе асноўнымі задачамі, для дзяржаўных органаў маюць усяго толькі рэкамендацыйны характар. „Кансультатыўны”, „рэкамендацыйны”, „дарадчы” — гэта тыя прыметнікі, якія характарызуюць паўнамоцтвы Рады. Па праўдзе кажучы, іншымі яны і не могуць быць, паколькі характар адносін з суайчыннікамі ў замежжы акрэсліве дзяржава. Яна вырашае, як хоча да іх ставіцца, як з імі кантактаваць, як узаемадзейнічаць. Справа ў тым, што закон не вельмі праясняе гэтае пытанне. У ім мноства недакладнасцей, якія насцярожылі беларусаў у замежжы ўжо год таму. Само вызначэнне „беларус у замежжы” недакладнае. Да іх, паводле закону, належаць асобы, якія „з пункту гледжання этнічнай прыналежнасці належаць да беларускага народа або беларускай мовы, культуры, гістарычных сувязей, ведання і захавання беларускіх традыцый і звычаяў”. Аднак з закону не вынікае, як улады будуць адрозніваць суайчынніка ад беларусафіла. Найбольш расчаравальныя артыкулы трэцяга раздзела пад загаловкам: „Дзяржаўная палітыка ў галіне адносін з беларусамі замежжа”. У артыкуле 16-м гаворыцца пра тое, што РБ падтрымлівае тых беларусаў і тыя арганізацыі, „чыя дзейнасць адпавядае нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь”. Гэта значыць, што дзейнасць некаторых беларускіх арганізацый Беласточчыны можа не адпавядаць інтарэсам цяперашніх улад Беларусі. У артыкуле 17-м гаворыцца пра стварэнне магчымасці для «переезду на часовае альбо пастаяннае жыхарства ў Беларусь». Ізноў жа ніякага ўдакладнення, на якой падставе ўлады будуць распазнаваць свайго замежнага суайчынніка. У законе няма ні слова нават пра самае простае: таннейшыя альбо бясплатныя візы і працейшы парадак іх атрымання для беларусаў. Затое на практыцы беларускія ўлады адмаўляюць у візах вельмі актыўным беларусам Беласточчыны, чыя дзейнасць ім не падабаецца. Атрымліваецца, што сам закон аб беларусах замежжа — недасканалы і не давядзіцца чакаць нічога экстраардынарнага ад гэтага пасяджэння Кансультатыўнай рады. Аднак беларусам у замежжы проста вельмі цікава, як да іх ставяцца ў Менску, ці ёсць нейкія змены ў дзяржаўнай палітыцы. Дыяспара — гэта вялізны патэнцыял, які любая краіна можа з вялікай карысцю выкарыстоўваць. Гэта рэзервуар бясплатных прыхільнікаў краіны, яе амбасадараў у свеце, лабістаў, талентаў, уплываў, ідэй і грошай. На жаль, цяперашнім уладам у Менску сяк-так цікавыя іх прыхільнікі і аднадумцы, затое крытычныя ў дачыненні да іх суайчыннікі — непатрэбныя.

Кастусь БАНДАРУК
Беларускае Радыё РАЦЫЯ



Вачыма еўрапейца

# Мульты-сток

У Беластоку фонды «Дыялог» і «Падтрымкі культуры і мастацтва Тэатр Нарвал» завяршылі праект «Мульты-сток». Ён быў суфінансаваны сродкамі Еўрапейскага Саюза. Яго асноўная мэта заключалася ў стварэнні міжкультурнага дыялогу паміж беластачанамі і пражываючымі ў горадзе замежнікамі.

— Для дасягнення найбольшай колькасці атрымальнікаў, з рознымі інтарэсамі і прэферэнцыямі, мы рашыліся ў гэтым праекце на разнастайнасць дзеянняў, — кажа Марцін Круглей з Фонду «Дыялог». — Былі рэалізаваны, між іншым, адукацыйныя акцыі, такія як Акадэмія міжкультурнай адукацыі і адукацыйныя паездкі, а таксама кулінарныя сустрэчы і цыкл мастацкіх мерапрыемстваў.

Элементам праекта «Мульты-сток» была таксама грамадская кампанія «Беласток. Традыцыйна шматкультурны». Ад запуску кампаніі ў снежні мінулага года беластачане маюць магчымасць удзельнічаць, між іншым, у кулінарных семінарах, канцэрце рускай, украінскай і беларускай музыкі, танцавальных майстар-класах. Згодна з прадпасылкай, праект «Мульты-сток» прадбачваў ажыццяўленне «розных дзеянняў па стварэнні міжкультурнага дыялогу», а разнастайнасць мерапрыемстваў была распрацавана, каб «дабіцца да розных аўдыторый з рознымі інтарэсамі і перавагамі».

Праект завяршыў фэст перад Драматычным тэатрам з канцэртам гурта **«Voo Voo»** і спектаклем для дзяцей «Японская казка пра добрае сэрца». Як быццам яго абвяшчэннем на некалькі дзён раней былі выступы на рынку Касцюшкі, сарганізаваныя — так як і фэст перад тэатрам — пад лозунгам «Мастацтва для мультыкультуралізму». Я не верыў сваім вачам у тое, што я там убачыў у рамках вышэйзгаданага мультыкультурнага — як я зразумеў — Беластока: і арабскі танец жывата ў выкананні некалькіх дзяўчат, паказ змешанай капаэйры, якая з'яўляецца вытворнай з Афрыкі і Бразіліі традыцыі мастацтва бою, харэаграфічная сцэна, якая нагадвае выкрадання дзеўкі нейкім племем. На дэсерт выступіла «Калінка» пад кіраўніцтвам Марыюша Харужага, варушыўшая вуснамі пад песню з плейбека твар у твар з аўдыторыяй, якую прадстаўнік фонду «Дыялог» прадставіў у якасці прыкладу... культуры Беларусі.

Ніяк мне не ладзілася (дарэчы, не першы раз у Беластоку) тое паняцце тутэйшага «мультыкультуралізму» з прапанаванымі мерапрыемствамі: танцамі, і нават пазней тэатрыкам у японскай стылістыцы. Ужо шмат месяцаў раней глядзеў я ў газеце рэкламу грамадскай кампаніі «Беласток. Традыцыйна мультыкультурна» і ў мяне былі сумненні адносна яе трапнасці, калі справа ў сталіцы Падляшша. Калі я паклаў фатаграфіі і сваё меркаванне (здзіўленне) на тэму танцавальных шоў у рамках «Мульты-стоку» на фейсбуку, свой каментарый дадаў журналіст і рэпарцёр Радыё Рацыя, тэлеканалаў Беласток і Белсат Мікола Ваўранюк, які ў далейшым пацвердзіў мяне ў здзіўленні адносна мультыкультурных дзеянняў Фонду «Дыялог». Я дазволю прывесці яго сцвярджэнне: «Фонд «Дыялог», як мне здаецца, маладыя людзі, якія для высакароднай мэты здзейсніли тальнае глупства. Я маю на ўвазе акцыю «Беласток. Традыцыйна мультыкультуры». За нейкія гіганцкія грошы змяшчалі ў важных агульнапольскіх выданнях рэкламу (на ўсю старонку!) інтеркома з прозвішчамі чачэнскімі, армянскімі і Бог ведае яшчэ якімі. Гэта мела адлюстраваць традыцыйны мультыкультуралізм (так!) Беластока. На унцыю не знойдзеце там Іванюка, Кавальчука, Яновіча, Сапоцькі, Ліцьвінкі ці падобнага. Калі я спытаў аб гэтым маладога чалавека з Фонду, ён патлумачыў мне, што гэта адпавядала дызайнеру. Проста прыгожа і сіметрычна гэта выглядала! Я падкрэсліваю, гэта не ёсць кампанія накіравана на інфармаванне нас пра праблемы бежанцаў, толькі паказанне Беластока ТРАДЫЦЫЙНА мультыкультурнага».

Пад маім постам паявіўся таксама крамаоўны каментарый Цэзары Галінскага, які жыве на Беласточчыне, у 1990-я гады карэспандэнта «Выбарчай газеты» ў Мінску. Яго словы прыводжу тут як разыначку: «Можа вядучым (танцавальныя шоў у рамках «Мастацтва для мультыкультуралізму» — М. Х.) быў той цырульнік, у якога я сёння стрыг валасы. Як гэта ў цырульніка, размова зышла неяк на тэмы і краіны далейшыя і бліжэйшыя (ён працаваў за мяжой). Нарэшце, ён спытаўся: «А гэтая беларуская гэта крыху як руская, ці не так?». Я падкрэсліваю, гэта жыхар Беластока пытаўся, а не Кендзежына-Козле!

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Пра дзеда Міхася і не толькі

— Ці Вы чулі пра бежанства? — пытаю занятага загатоўкай дроў на зіму старога чалавека.

— Канешне, чуў, толькі ўжо пазабываў.

Рыгор Бяганскі, 1935 года нараджэння, жыве па вуліцы Касцельнай у Крынках. Блізкасць касцёла і шляхецкае ў гучанні прозвішча толькі што напатканага чалавека застаўляла трымацца дамінуючага тут польска-моўя.

— Запрашаю ў хату, не будзем гаварыць на вуліцы.

Вузкай лесвіцай падымаемся на першы паверх старога, жыдоўскага будынка.

— Ведаеце хто тут жыў? — пытаю майго суразмоўцу.

— Жыды, але хто дакладна, цяжка сказаць. Тут жа гета было. Іх вывезлі, а хаты гміна прыкамандзіравала. Я пераехаў сюды пасля вайны.

— Так вы не крынскія? — крыху здзіўляюся.

— Я з Ласінян, праваслаўны.

Усё зразумела, далей размаўляем ужо толькі па-беларуску. Заадно размываюцца мае думкі, што вось у мяне незвычайнае адкрыццё — крынскі каталік, якога продкі былі ў бежанстве.

У невялікае памяшканне ўваходжу быццам у іншы свет. Усё тут колішняе, але яшчэ жывое. У цесным пераходзе паміж кухняй і пакоем вісіць заплямленая часам, у салідннай драўлянай рамцы люстра, ніжэй стаіць старая чорная, гравіраваная золатам, швейная машына, яшчэ цёплая ад карыстання.

— Гэта Рыгор у нас шые, — інфармуе добрая і надта прыгожая, з ідэальнай прычоскай у стылі рэтра жонка.

Спадар Рыгор зразу пераходзіць да тэмы нашай сустрэчы. Гаворыць, седзячы на выгадным крэсле, побач, менш выгадна, прысядае яго жонка. Яна не перашкаджае, як часта ў такіх выпадках бывае, а гарманічна дапаўняе мужаў аповед. Ідэальная па ўсіх культурна-грамадскіх канонах пара.

Пра бежанства Рыгор наслухаўся ў дзяцінстве, пасвячы коней. Паказвае мне паднішчаны, але надта выразны здымак

— Гэта мой дзед Міхаіл, бабуля Вольга, мама Надзея, маміна сястра Верка, — указваючы пальцам, пералічвае пазіруючых у некалькіх радках асабліва прыгожых людзей. Прыгожыя твары, прыгожая гарадская вопратка. Ні следу ласінянскіх тканых спадніц ці хустак, ні следу голаду ці сацыяльнай несправядлівасці.



Здымак з Харкава сям'і маці спадара Рыгора

Маці спадара Рыгора, Надзея Раманік, нарадзілася ў 1911 годзе ў Ласінянах. Туды замуж выйшла яе маці — карэнная крынчанка Вольга.

У бежанства выязджала будучы толькі чатырохгадовай дзяўчынкай, але тамтэйшае жыццё запамятала і ведала сапраўды добра. А можа пра ўсё гэта даведалася, перш за ўсё, ад сваіх бацькоў?

Паслухалі расійскіх афіцэраў, якія гаварылі, што немцы іх тут заб'юць, і паехалі. Разам з імі, між іншым, бабуліна сястра і дзедавыя сваякі Бурачэўскія. З хаты павыносілі ўсё, а чаго не змаглі забраць з сабой, закапалі ў яму з-пад бульбы.

Узялі, у асноўным, ежу. Разумны дзед Міхась і пра гарэлку не забыўся. Тады панаваў тыф, а змазанага гарэлкай цела хвароба не трымалася. Міхась нават чужым не шкадаваў. Шмат каго вырАтаваў ад смерці.

Дзякуючы запасам ежы і мудрасці Міхася ўсе шчасліва даехалі да Харкава.

— А што ж гэта за бежанцы? — цікавіліся харкаўскія гараджане. — А ці яны з рагамі? — смяецца, узгадаючы маміны аповеды спадар Рыгор.

Так на іх глядзелі быццам шукалі гэтых рагоў. Але на самой справе людзі былі там надта добрыя. Міхась і яго дваюрадныя браты працавалі на фабрыцы. Вольга гаспадарыла ў хаце. Дзяцей нарадзілася шмат, было чым заняцца: Грышка, Сяргей, Аркадзік, Вера, а яшчэ Шурка — хрышчоны спадара Рыгора. Шостая дачка спачыла на харкаўскім могільніку.




Рыгор і Раіса Бяганскія

— У нас на памінальны абед збіраецца пераважна сям'я. Гарэлку п'юць, шмат ядуць, а яшчэ, калі што не так, і абгавораць. А ў Харкаве на пахаванні мамінай сястры цэлая вуліца сабралася. Сям'я надта перажывала як іх усіх накарміць.

— Не бядуйце, — супакоілі іх харкаўскія суседзі, — у нас не так, як у вас. Прышыкуйце столькі, колькі самі з'ясце. Пабачыце, усё будзе добра.

Людзей прыйшло шмат. У рот кожны ўзяў толькі па кусочку. Ежы хапіла, а нават і засталося.

— Не помню як яе звалі. Мама яе памінала. Напэўна дзесьці ў кніжачцы гэтае імя знойдзецца, дзесьці яно ляжыць, — стараецца сабраць свае думкі Рыгор.

Усё памянялася з выбухам рэвалюцыі. Працаўнікам фабрыкі, у тым ліку Міхасю, далі зброю. Надта яна спатрэбілася. Асабліва па начах раздаваўся крык забіваных нявінных людзей. Вечарам Міхась выходзіў са зброяй перад хату і страляў, каб напалохаць бандытаў. Усё-такі службовага каня зберагчы не змог.

— Давай лошадзь, — загадаў бандыт — адзін з яго супрацоўнікаў на фабрыцы.

— Добра што галаву цэлую пакінуў, — сказаў пасля дырэктар той жа фабрыкі.

— Звалі яго Арцём, — паўтарае маміны расказы Рыгор. — Раптоўна пачаў багацець, разжыўся на ўсе бакі. Нават карусель сваю паставіў. Урэшце яго арыштавалі і за разбой ды крадзеж прыгаварылі да смяротнага пакарання. Той папрасіў з сям'ёй развітацца.

— А ты даваў людзям развітацца, калі забіваў? — пачуў перад смерцю.

З Харкава вярталіся на сваім возе. Было вельмі цяжка. Часта запынялі іх нейкія банды, мытнікі парэзалі ўсе клубкі воўны, шукаючы золата і грошай. Але Міхась з усім справіўся. Каштоўнасці пазатыкаў у разворку, у якую ўстаўляюцца ручкі ад воза. Там ніхто не заглянуў. Нават цялушку цэлую і здаровую з сабой прывалок. На добры пачатак хапала і грошай, і малака. У Ласінянах хата яшчэ стаяла, але кругом усё лесам зарасло. Карчавалі, аралі, сеялі, збіралі. На заробак Міхась пайшоў у крынскую гарбарню. Ніколі не бедаваў, а і ў Харкаў не думаў вяртацца. Памёр у 1940 годзе.

Бацьку спадара Рыгора звалі Аляксандрам. Нарадзіўся ён у 1906 годзе ў Ласінянах. Меў двух братоў Ваньку і Міхаіла. Не было ўжо ў жывых іх бацькі — Мірона, ураджэнца суседніх з Ласінянамі, цяпер беларускіх, Непарожнеўцаў, таму ў бежанства адправіліся толькі з маткай Дамінісяй. Як і астатнія ласінянцы, падарожнічалі толькі вазамі. Каб не памерці ад голаду, наймалодшага з цэлай сям'і Аляксандра пасылалі жабраваць. Так даехалі да самога Крыма. Там далі ім хату разам з курамі. Поўныя сенцы курэй. Дамініся па-ласінянску падумала, што нехта на нейкае безгалоўе іх падкідаў. Тады яшчэ не ведала, што ў Крыме правая рука дае так, каб левая не бачыла. Іншымі аказаліся таксама тамтэйшыя святары.

Аляксандра паслалі за святарам, каб дзіця ахрысціў. Надта здзівіўся, застаўшы бацюшку на працы пры раскідванні гною. «Сейчас, сейчас», — адказаў яму той і, хутка, памыўшы рукі, паехаў хрысціць. За духоўныя паслугі плацілі яму збожжам, з якога толькі невялікую частку пакідаў сабе, а ўсё астатняе раздаваў бедным.

Брат Аляксандра, Міхаіл, з Крымам звязаўся назаўсёды. Закахаўся ў Марусю — украінку, званую ласінянцамі хахлушкай. Нарадзілася ім трое дзяцей. Добра ім там жылося. Міхаіл працаваў слесарам, нават каня з двухколкай (брычкай на двух колах) трымаў.

Пад канец Другой сусветнай вайны Міхась усё ж такі завітаў у родныя Ласіняны. Уцякаў ад голаду. Тады на Крыме ад часу да часу можна было набыць толькі шклянку мукі на вадзяную баланду, якая надта ў туалет ганяла. А бывала, што і баланды не хапала. Тут калгасаў не арганізавалі, таму крыху лепш жылося. Мелі картоплю, хлеб, а нават сала. Міхаіл, убачыўшы гэты дабрабыт, пагнаўся на Крым за Марусяй і дзяцьмі. На дарогу маці нарыхтавала яму



Ікона, прывезеная з Харкава

курыцу, сала, насмажыла бульбы. Усё, нават смажаную бульбу, туды давёз. У Ласінянах сям'я Міхаіла пражыла ўсяго чатыры месяцы. Зараз ён пераехаў у Ваўкавыск пакрываць чыгуначныя вагоны. Шмат бляхі прынасіў дахаты. Рабіў з гэтага вялікія катлы — для вываркі бялізны, вёдры і іншыя хатнія прылады. Жонка займалася іх продажам. Так зараблялі на шкварку.

— Ласіняны ў 1948 годзе адышлі да Польшчы. Тады яшчэ Міхаіл прысылаў нам лісты з Ваўкавыска. Недзе ў 1950 годзе напісаў, каб бацька прыехаў у Ваўкавыск развітацца. Надумаўся вяртацца ў Крым, хаця ўсе яго дзеці пажаніліся ў Ваўкавыску. Бацька не змог пераехаць мяжу. Кантакт з Міхаілам перарваўся. Засталася па ім толькі адна алюмініевая ваўкавыская попельнічка.

— Дзе пабывала ваша сям'я? — пытаю жонку спадара Рыгора, Раісу з дому Краскевіч, 1937 года нараджэння.

— Сям'я маёй маці, карэннай крынчанкі па прозвішчы Скроўба не была ў бежанстве. Тое самае тычыцца бацькавай сям'і. Дзяды Краскевічы, хаця крушынянскія, жылі ў Мінску. Тут яны бедавалі. Дзед Аляксандр у Крушынянах быў пастухом, а ў Мінску стаў чыгуначным кандуктарам. Бацька Мікалай нарадзіўся ўжо там у 1908 годзе, таксама яго сёстры Тонька і Маня ды брат Сяргей. Найстарэйшая з іх Маня вывучылася на настаўніцу. Працавала ў крушынянскай школе. Краскевічы ў Крушыняны вярнуліся разам з бежанцамі. Спачатку дзед прывёз дзяцей і пакінуў іх жыць у адной з крушынянскіх сямей. Хаця пасылаў грошы на апеку, гэтыя шкадавалі дзецям хлеба. Потым прывёз царскія залатыя грошы, за якія купіў зямлю на пасаг. З пасагу атрымаўся хамут на шыю, таму што зямлю абклалі вялікімі падаткамі, а новапастаўленую кулацкую хату спалілі.

Спадарыня Раіса апекавалася сваім бацькам да канца. Шкадуе што ўжо памёр. Мог бы столькі цікавага расказаць.

Іаанна ЧАБАН

## Падляшша Мірaслава Хіліманюка

З 7 траўня па 22 чэрвеня ў Малой галерэі Гайнаўскай бібліятэкі была адкрыта першая выстава малюнкаў Міраслава Хіліманюка „Маё Падляшша". Аўтар прэзентаваў 16 алейных карцін, якія прадстаўляюць прыгажосць падляшскага краявіду і клімату. Некаторыя прадстаўляюць вобраз вёсак, даўнюю архітэктуру, якія, на жаль, адыходзяць у мінулае. Экспазіцыю завяршаюць тры кветкавыя кампазіцыі. Мяне асабліва захапіў абстрактны цыкл на тэму чатырох пор года. Кожная карціна трапна аддае палітру кожнай пары. Можам таксама ў іх паспрабаваць адчытаць эмацыянальны адносіны мастака да канкрэтнага перыяду. Мне найбольш спадабаўся вобраз восені, таму што яна ў вачах аўтара не сумная і шэрая, толькі вясёлая ды цёплая, поўная сонца ў каляровых лісцях дрэў, восеньскіх кветак ды павуціння.

Міраслаў Хіліманюк працуе дырэктарам гайнаўскага аквапарку. Па прафесіі ён інжынер-механік ды магістр кіравання. Не з'яўляецца выпускніком школы для мастакоў. Як сам расказвае, мастацтвам зацікавіўся ўжо ў пачатковай школе:

— Цікавыя заняткі ў школе арганізаваў Віктар Кабац. Ад гэтага пайшло маё зацікаўленне малюнкам ды ахвота маляваць. Пазней я вырашыў стаць архітэктарам. Я інтэнсіўна рыхтаваўся да экзаменаў па рысунку. У гэты час я зразумеў, што мне да рысункаў хочацца дадаць колер.

Нейкі час таму спадар Міраслаў вярнуўся да свайго хобі. Пачаткова Збігнеў Будзынскі вучыў яго малярскаму майстэрству. Актуальна Міраслаў Хіліманюк прымае ўдзел у занятках Клуба пластыка-аматара „StART" Гайнаўскага дома культуры пад кірункам Зінаіды Якуць ды Майстэрні пластычных тэхнік Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы пад кірункам Данеля Грамацкага. Аўтар апавядае, што вялікі ўплыў на ягоную мастацкую частку душы мелі імпрэсіяністы, якія ў сваёй творчасці паспрабавалі стрымаць свае пачуцці ў канкрэтны момант. Інспірацыяй для новых карцін з'яўляецца перш за ўсё разнастайнасць Падляшша. Адносна будучыні Міраслаў Хіліманюк кажа, што хоча, каб ягоная індывідуальная ды арыгінальная мастацкая дарога сфарміравалася са своеасаблівым стылем і характарам. Дык гэтага яму жадаем!

**Эва ВАШЧЫНСКАЯ**

## Купальская ноч у Нараўцы

У суботу, 11 ліпеня гэтага года ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) у амфітэатры над ракой традыцыйна ўжо адбудзецца абрадавае ды культурна-забаўляльнае мерапрыемства „Ноч Купалы". Ладзяць яго Гмінная ўправа і Гмінны асяродак культуры.

Сёлета арганізатары запрасілі тры мастацкія калектывы з Беларусі — Беларускі музычны тэатр „Рада" з Гродна ды „Бабінае лета" і хор „Ружаны" з Пружан, эстрадны гурт „Арт-Пронар" з Нарвы ды два „свае" — „Нараўчанкі" з Нараўкі і „Цаглінкі" са Старога Ляўкова.

Падчас Купальскай ночы адбудзецца конкурс на найпрыгажэйшы абрадавы вянок і затым вянкі з запаленымі свечкамі паплывуць з цячэннем ціхаплыннай ракі Нараўкі. А поўначы выстраляць яркія каляровыя феерверкі. Імпрэза закончыцца танцавальнай забавай да белай раніцы. **(яц)**




# Сябры з Гародні — феномен «Дзецюкоў»

Здавалася б, што ў цяперашнюю спажывецкую эпоху музыка не ўносіць да жыцця не занадта шмат радасці, павінна добра гучаць, быць збіткай зробленых гукаў апранутых у добры графічны макет, мае нават візуальны характар (паўсюднасць і нахабства тэледыскаў), а не чыста музычны. Яна мае быць прадуктам, а не з'яўляцца носьбітам ідэй або каштоўнасцей. Гэта можна нават заўважыць у альтэрнатыўнай музыцы, пераробленай і дублюючай музычныя і тэкставыя схемы вядомыя ад многіх гадоў. Замест бунту крытыкі несправядлівай рэальнасці наступіў застой. Хто вінаваты ў гэтым стане спраў — музыканты, слухачы, людзі з музычнай індустрыі? Напэўна, кожнае з гэтых асяроддзяў гэтаму паспрыяла. У вялікай ступені тут іграюць важнасць рэаліі, пануючыя ў краіне сацыяльныя, культурныя ўмовы, дзе права на роўнасць выказванняў на шырокім форуме, аднак, абмежавана. Гэтак было ў ПНР, калі найлепшыя гады перажывала польская панк-рокавая сцэна з такімі групамі як «Dezerter» ці «KSU». Калі бунт супраць сістэмы не быў модай, а адказам на тое, што дзяржава прапанавала для маладога грамадства. Як добра відаць, лепшыя гады польскага панку мінулі, і не таму, што ёсць больш варыянтаў жыцця. Факт, што часам бываюць праблескі чагосьці цікавага, але гэта толькі праблескі. Слухачам, асабліва менш вытанчаным, «убілі» ў галовы тое, што шырока раскручана, гэта значыць, «забілі» ў іх жаданне пошукаў таго чагосьці.

У адваротным выпадку справа маецца з беларускай рок-сцэнай, якая перыядычна выпускае новы праект, хоць асуджаны дома з-за распаўсюду крамольнай думкі, а атрымлівае прызнанне ў суседніх краінах, а ў сябе іграе і стварае хутчэй у «партызанскіх» умовах. Падобна справа маецца з героямі гэтага тэксту. Пра іх музыку і спасылкі, ствараючыя імідж каманды, можна сказаць, што гэта феномен (музычна-сацыялагічны), які пераконвае да сябе чарговых людзей. Спачатку схілімся над шыльдай, пад якой музыкі выступаюць. «Дзецюкі», таму што такую назву прыняла ў Гродне група ў 2012 годзе. Хто гэта тыя загалоўныя «Дзецюкі», як тлумачыць гэта сам гурт у дыджыбукавым выданні свайго дыска «Гарадзенскі гармідар», дзецюкі гэта маладыя людзі, сыны і дочкі беларускай зямлі, якія, хоць і маюць наіўнае і рамантычнае стаўленне да жыцця, заўсёды гатовыя ўстаць да няроўнай барацьбы з акупантам, які спрабаваў падпарадкаваць сабе беларускую зямлю і яе грамадства. Гэтак жа, як у сваіх прамовах і пасланнях да беларускага — вясковага грамадства звяртаўся Кастусь Каліноўскі — шляхціц родам з Мастаўлян, чалавек на многіх плоскасцях дзеяння, спрабуючы мабілізаваць іх на ўдзел у студзеньскім паўстанні 1863 года. У апошні час на музычным рынку пануе кан'юнктура на падобнага тыпу «тоеснасныя музычныя праекты», мы бачым гэта ўжо ў выпадку праекта гурта «Р.У.Т.А» і дыску «На Усход», дзе абмяркоўваюцца пытанні, звязаныя з былымі крэсамі Рэчы Паспалітай, з досыць выразнай анархісцка-рэвалюцыйнай афарбоўкай. Хаця тэксты, якія тычацца чалавечых пакут і неабходнасці перамен, якія гучаць ад гадоў, захоўваюць сваю актуальнасць. З іншага боку, трэба адзначыць, што хапае сёння дыскаў прысвечаных «непахісным салдатам», адным з іх з'яўляецца выдавецтва Анджэя Дзюбінскага «De Press» — „Myśmy rebelianci", песні выклятых салдат, кранаючыя тэму польскага антыкамуністычнага падполля. Яшчэ раней выдадзены быў альбом "Варшаўскае паўстанне" гурта «Лао Чэ», у якой быў поспех, будучы сігналам, што ёсць патрэба ў такога роду творах, якая дазваляе ідэнтыфікаваць сябе з ідэямі і дзеяннямі за свабоду. «Дзецюкі» напэўна ўпісваюцца ў гэты кантэкст і паказваюць у гэтай тэме беларускі пагляд. Як можна прыкмеціць не толькі ў Польшчы, але і ў Беларусі, ёсць попыт на гэты від перадачы, які можа прадстаўляць падобную тэму з крыху іншага пункту гледжання. Але давайце вернемся да асобы гаспадара з Мастаўлян, героя многіх народаў. На тэму асобы Каліноўскага і ўспрымання яго асобы да параўнання з Эрнэста Чэ Геварам была ў мяне магчымасць пагаварыць з Алесем Дзянісавым падчас аднаго з яго канцэртаў на Падляшшы. *У якім сэнсе гледзячы на постаць К. Каліноўскага можна сказаць, што быў ён беларускім Чэ Геварам? — Чаму не. Ён гаварыў пра такія рэчы, і зрабіў тое, што было страшна рэвалюцыйным. У сённяшні час яго ўспрымалі б як рэвалюцыянера, левака, анархіста ці паўстанца. Успамінаў аб такіх рэчах, што нават белыя адмовіліся прыняць яго погляды і не жадалі мець нічога агульнага з ім. Для белых сцвярджэнне, што ўсе людзі роўныя, у тым ліку мужыкі, было жудасна рэвалюцыйным, з гэтага пункту гледжання можна сказаць, што ён быў беларускім Чэ Геварам.*

*Я нічога не маю супраць таго, каб маладыя людзі насілі яго на футболках. З Чэ Гевары зрабілі поп-трэнд і не хачу, каб такое кранула Каліноўскага. Спажывецтва зрабіла з Гевары скажэнне рэвалюцыянера, стаў смешным, забаўным барадатым дзедкам / дзядзькам з цыгарай, ніхто не задумваецца глыбей над яго стаўленнем і асобай. Гэта жахліва, што тое ж самае магло б здарыцца з Каліноўскім, і я не хачу, каб гэта адбылося.* Падчас той жа размовы ён распавёў мне, як сёння ў Беларусі абмяркоўваецца студзеньскае паўстанне і памяць аб ім. *Улада аб ім не ўспамінае, больш таго, у сродках масавай інфармацыі гэтая падзея таксама абмінаецца. Таму што тое паўстанне ці нават думка аб ім палохае, таму што ў нашай краіне пануе такая параноя. Улада баіцца самой памяці аб гэтай падзеі, каб не было закваскі для наступнага рыўка, але ў цяперашні час, думаю, што яно не выбухне Але нават сама памяць забіваецца і кіруючая эліта не хоча нават згадваць аб гэтай падзеі.* Словы Алеся адпавядаюць міфу, што беларускі народ з'яўляецца «нацыяй партызан», што час грамадскага маразму становіцца цішынёй перад бурай, чаканнем спрыяльнай сітуацыі ўстаць за волю. Самі музыкі дадаюць да гэтага міфа сваю лепту ў выглядзе тэкстаў сваіх песень.

Да тэмы гісторыі руху супраціву падыходзяць досыць рэфлексіўна, але ўмеюць гаварыць пра нязручныя старонкі гісторыі Беларусі, уключаючы партызанскі рух. Сваімі думкамі падзяліўся Алесь Дзянісаў (па адукацыі гісторык): *Тэму партызан, якія ваявалі падчас Другой сусветнай вайны, баюся кранаць, бо гэтая тэма слізкая і нязручная, таму што з аднаго боку гэта былі савецкія партызаны, пра якіх кажуць у школах, што яны былі героямі, але калі мы гаворым пра гэта са старэйшым пакаленнем, сустракаемся з каментарыямі, што многія з іх былі бандытамі. Яны змагаліся з нацыстамі, але і сядзелі ў лесе і проста рабавалі просты народ. З іншага боку, я ніколі не буду за тымі людзьмі, якія хадзілі пад бел-чырвона-белымі сцягамі, казаўшы, што яны за Беларусь, але супрацоўнічалі з нямецкімі акупантамі. Мы павінны быць пасярэдзіне, не за тымі і не за тымі.*

Сутнасць у тым, што песні, якія іграе шэсць музыкаў (фармальна каманду стварае сем чалавек, у тым ліку і аўтар песень Дзяніс Жыгавец) не пра нішто, што так часта здараецца ў сучасным року. У дадатак да чутнага энергетычнага зараду, які нясе фольк-панк-музыка, ёсць таксама велізарны зарад эмоцый, адчуваецца, што тут няма падробленых пачуццяў, якія садзьмуцца з музыкаў, калі «выкінуць» з сябе апошнія радкі тэксту.

працяг ☞ 5

# Страшныя лічбы русіфікацыі

**Страшныя лічбы русіфікацыі: з 2010 года колькасць беларускамоўных вучняў зменшылася на 43 тысячы, беларускамоўнае студэнцтва практычна ліквідавана**

Калі такая палітыка працягнецца, беларуская мова можа першай са славянскіх выйсці з ужытку.

**Канстытуцыя Беларусі дэкларуе роўнасць дзвюх дзяржаўных моў, аднак у рэальнасці атрымаць адукацыю па-беларуску складана. З кожным годам колькасць беларускамоўных школ скарачаецца. А вышэйшая адукацыя на беларускай мове практычна ліквідавана.**

Аднак калі знайсці беларускамоўную групу ў садку альбо клас у школе/гімназіі цяжка, але магчыма, то каледжы і ўніверсітэты спрэч рускамоўныя. Нягледзячы на шматразовыя просьбы грамадзян аб адкрыцці беларускамоўнага ўніверсітэта і той факт, што тысячы школьнікаў сканчаюць школы на беларускай мове, Нацыянальнага ўніверсітэта па-ранейшаму няма.

На ўсю Беларусь сярэднюю спецыяльную і вышэйшую адукацыю па-беларуску атрымлівае каля 600 чалавек! Прытым што яшчэ ў 2010 годзе, перад чацвёртым прэзідэнцкім тэрмінам Аляксандра Лукашэнкі, гэтая лічба складала 5000 чалавек. А ў 1994 годзе такіх былі дзясяткі тысяч.

**«Наша Ніва» параўнала, наколькі змянілася колькасць беларускамоўных вучняў і студэнтаў ва ўсіх сферах адукацыі з 2010 года.**

### Садкі — мінус 6100 чалавек

Першая, хоць і не абавязковая, прыступка адукацыі — дзіцячыя садкі. У іх ходзяць кожныя тры з чатырох маленькіх беларусаў. «Двухмоўных» садкоў не бывае — ці па-беларуску, ці па-руску.

За кошт дэмаграфічнага ўздыму ў апошнія гады колькасць дзетак у садках павялічылася. Аднак колькасць тых, хто займаецца па-беларуску, скарацілася на 6100 чалавек.

Ва ўсходняй Беларусі доля беларускамоўных вучняў скацілася з 10% да 8%, у цэнтральнай і заходняй Беларусі лічба трымаецца на ўзроўні 15-18% (было 17-24%).

У Мінску ў беларускамоўныя групы запісаныя менш за 3 тысячы дзетак. Гэта ўсяго 3,2% ад агульнай колькасці. **(Таб. 1)**

### Школы — мінус 43 300 чалавек

У школах паказчыкі не такія нізкія, але нават на такім узроўні беларускамоўнасць трымаецца толькі за кошт вясковых школ. Сярод 135 тысяч беларускамоўных школьнікаў толькі 14 500 вучацца ў гарадах.

У Мінску доля стабільна нізкая, у абласцях адбываецца імклівае скарачэнне.

Напрыклад, на Міншчыне ў 2010 годзе па-беларуску навучалася кожнае трэцяе дзіця. Цяпер — кожнае чацвёртае.

Для ўсходняй Беларусі і такія лічбы недасяжныя. Там беларускамоўная адукацыя адкацілася з 17-18% да 12-13%.

Белстат даведкава паведамляе, што па-польску вучацца 917 чалавек, а па-літоўску — 59 чалавек. Цікава, што гэтыя лічбы якраз-такі растуць. **(Таб. 2)**

### Сярэдняя спецыяльная адукацыя — мінус 2900 чалавек

Беларускамоўныя класы ў каледжах зменшыліся да лічбаў статыстычнай памылкі — 300 чалавек на ўсю краіну. У 2010 годзе было ў дзесяць разоў больш!

Апроч таго, 21 800 (16,9%) студэнтаў навучаюцца па-руску і па-беларуску. На практыцы гэта значыцца, што толькі адзінкавыя дысцыпліны выкладаюцца на беларускай мове. **(Таб. 3)**

### ВНУ — мінус 1400 чалавек

Падобная сітуацыя і ў вышэйшай адукацыі. Паводле статыстыкі, па-руску і па-беларуску навучаюцца 149 200 чалавек (41,1%). Але ў лік іх уваходзяць студэнты, у якіх па-беларуску можа чытацца толькі адзін нейкі курс.

На беларускай жа мове навучаецца ўсяго 300 чалавек, фактычна гэта толькі філалагічныя групы плюс нешматлікія групы гістфака. За пяцігодку лічба зменшылася ў 6 разоў.

Дарма інтэлігенцыя крыкам крычыць: без стварэння Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта, без выкладання ў ВНУ на роднай мове мове пагражае знікненне. Тэма для чыноўнікаў застаецца «неактуальнай». **(Таб. 4)**

**Ягор МАРЦІНОВІЧ**
**„Наша Ніва", 4.07.2014 г.**

(Таб. 1)

| | 2010 | | 2014 | |
|---|---|---|---|---|
| | колькасць (тыс.) | доля (%) | колькасць (тыс.) | доля (%) |
| усяго навучэнцаў | 384 | | 410,6 | |
| **па-беларусу, з іх:** | **49,2** | **12,8** | **43,1** | **10,5** |
| Мінск | 3,1 | 3,8 | 2,9 | 3,2 |
| Брэстчына | 9,8 | 16,8 | 9,1 | 14,7 |
| Віцебшчына | 4,7 | 10,0 | 3,8 | 7,8 |
| Гомельшчына | 5,6 | 9,7 | 4,8 | 7,9 |
| Гродзеншчына | 8,8 | 19,0 | 8,3 | 18,2 |
| Міншчына | 13 | 24,2 | 10,4 | 18,2 |
| Магілёўшчына | 4,3 | 10,4 | 3,6 | 8,2 |

(Таб. 2)

| | 2010 | | 2014 | |
|---|---|---|---|---|
| | колькасць (тыс.) | доля (%) | колькасць (тыс.) | доля (%) |
| усяго навучэнцаў | 940,4* | | 931,3* | |
| **па-беларусу, з іх:** | **178,4** | **19,0** | **135,1** | **14,5** |
| Мінск | | 23,0 | 3,9 | 2,3 |
| Брэстчына | | 24,5 | 32,4 | 20,6 |
| Віцебшчына | | 18,6 | 13,1 | 12,1 |
| Гомельшчына | | 18,0 | 18,7 | 12,8 |
| Гродзеншчына | | 21,8 | 18,1 | 16,9 |
| Міншчына | | 31,9 | 35,7 | 25,7 |
| Магілёўшчына | | 16,9 | 13,5 | 12,7 |

* дадзеныя без уліку спецыяльных школ

(Таб. 3)

| | 2010 | | 2014 | |
|---|---|---|---|---|
| | колькасць | доля (%) | колькасць | доля (%) |
| усяго навучэнцаў | 167 000 | | 129 000 | |
| **па-беларусу, з іх:** | **3 200** | **1,9** | **300** | **0,2** |

(Таб. 4)

| | 2010 | | 2014 | |
|---|---|---|---|---|
| | колькасць | доля (%) | колькасць | доля (%) |
| усяго навучэнцаў | 442 900 | | 362 900 | |
| **па-беларусу, з іх:** | **1 700** | **0,4** | **300** | **0,1** |

4 ☞ працяг

Паша і Алесь вельмі добра ведаюць тое, што яны хочуць данесці да іншых, для іх падзеі ў Курапатах, таго ўжо ўзгаданага Каліноўскага, Лясныя браты, Станіслаў Булак-Балаховіч (на канцэртах вялізныя эмоцыі выклікае твор "Хлопцы-балахоўцы" пра камандзіра на службе ў розных краінах, з выбару беларуса, па пераканнях антыкамуніста, гэтым «кавалкам» гурт часта бісуе) — гэта не пустыя словы, а нейкія паказальнікі шляху, аб якіх павінны памятаць і вучыцца наступныя пакаленні, а пачуццё быцця беларусам з'яўляецца падставай для гонару, чымсьці важным у жыцці кожнага члена гэтай нацыі і яно заўсёды будзе напаўняць яго дзеянні. Гэта сапраўды варта адзначыць, што ў сэнсе твораў «Дзецюкоў» не знойдзеш шавінізму або жадання дамінаваць над іншымі людзьмі — народамі. Жыгавец у сваіх тэкстах засяроджваецца на салідарнасці, узаемнай павазе і барацьбе за агульную справу, то-бок, права на годнае жыццё, незалежна ад краіны, у якой жыве беларус. Тут няма пытання пра нацыяналізм, а хутчэй пра патрыятызм. Гэта сапраўды супярэчлівая тэндэнцыя, якая даволі частая на польскай сцэне «музыкі ідэнтычнасці», дзе пераважаюць нездаровыя эмоцыі і ксенафобія, і гэты шлях выбрала некалькі рэпераў, якія па іроніі лёсу ў якасці зброі ў распаўсюдзе сваіх ідэй выбралі сабе музыку, створаную афраамерыканцамі, для якіх рэп быў зброяй і абаронай ад расізму з боку белых амерыканцаў. Але ці экіпаж панкаў з Гродна можа быць патрыётамі? Так пра патрыятызм і нацыяналізм кажа А. Дзянісаў, адзін з двух галасоў каманды: *Наш, калі так кажаш, патрыятызм, адрозніваецца ад таго што ў Расіі ці Польшчы, у якіх патрыятызм можа ісці рука аб руку з ксенафобіяй, шавінізмам ці расізмам. У нашай беларускай сітуацыі трохі нацыяналізму, але здаровага, мала. Таму што наша культура і традыцыя забіваецца з-за яе русіфікацыі, улада не паважае гісторыю, культуру, наш нацыяналізм або патрыятызм не мяжуе з агрэсіяй або гвалтам у дачыненні да іншых культур. Мы толькі паважаем тое, што сваё, што лічыцца для нас. Спадзяемся, што ўсе на гэтай планеце зразумеюць, што мы браты і сёстры, мы гаворым толькі пра сваё, і гэта не мае палітычнага характару, толькі культурны і гістарычны.*

У прыватным сутыкненні Алесь, Паша, Андрэй, Мікола, Лёха, Саня і Дзяніс гэта вельмі сімпатычныя і таварыскія мужыкі, якія пра музыку, але і пра гісторыю ці беларускую традыцыю ў стане гаварыць доўга і маляўніча без якіх-небудзь пыхкаў і зорнай хваробы. На сцэне яны такія ж — шчырыя. Гэта, напэўна, адна з прычын феномену, як здольнасць прыцягваць людзей і забяспечваць іх станоўчай энергіяй. Як кажа Паша, *падчас канцэртаў, любім так сабе пасябраваць, пасля іх, дарэчы, таксама.* Музыкі гэта вялікія прыхільнікі роднай Гродзеншчыны і Гродна, горада, дзе крыжуюцца народы і культуры, гэтая спецыфіка, клімат маюць уплыў на музыку, якую яны ствараюць. Пакуль адзіны альбом гурта "Гарадзенскі гармідар" быў выпушчаны дзякуючы намаганням і падтрымцы Калегіі Усходняй Еўропы імя Яна Новака-Езяранскага ў Вроцлаве, парталу Tuzin.fm і Міністэрства замежных спраў Польшчы. Сумна тое, што альбом не быў нават заўважаны польскімі музычнымі часопісамі, а трэба прызнаць, што гэтая прадукцыя не саступае заходняй, прадстаўляючай падобны фольк-панк матэрыял. Альбому спрыяў тур па паўднёвай Польшчы, завіталі таксама ў Брно, Прагу і Берлін. Гэта можна праліць на пераканание часткі польскай аўдыторыі, што тое што з Усходу — горшае і бяднейшае. У гэты момант можна ўспомніць анекдот Пятра Качкоўскага, музычнага журналіста радыё «Тройка», які, прадстаўляючы сваім амерыканскім калегам па радыё польскую рок-музыку («Рэпубліка» і «Перфект»), сустрэўся з іх здзіўленнем, што нешта падобнае было створана ў Польшчы. Для іх музыка з нашай краіны асацыявалася з народнымі русіфікаванымі прыпеўкамі. Ну, цяжка змагацца са стэрэатыпамі, але гэта непазбежна. Трэба проста зразумець кантэкст музыкі «Дзецюкоў» і ўслухацца ў кожны гук, што дасць шырокі спектр пачуццяў і эмоцый, не кажучы ўжо пра тое, што падсвядома ўчуваемся ў рытмы. У той жа час беларуская мова ўпісваецца ва ўсходнія рок-мелодыі, а яе славянскасць спрыньнецца да таго, што «больш-менш» у Польшчы разумеем тэксты.

У канцы варта адзначыць, што ў першую чаргу «Дзецюкі» гэта каманда, якая здзяйсняецца ў час сцэнічных канцэртаў, эмацыйных, з поўнай дозай расслаблення, шаленства і ўзаемнай забавы. Стараюцца, каб спяваючы пра складаныя тэмы не было пафасна, але каб заўсёды быў па крайняй меры адзін пробліск аптымізму на будучыню. Каманда, падобна як вершы / тэксты Дзяніса кіруюцца максімай: *Лепш быць па-за законам і з гонарам мець заўсёды паднятую галаву, чым насіць фізічныя або псіхічныя кайданы.* І яны жывуць поўным жыццём, нягледзячы на схемы і тое, што падыходзіць ці не, як і ў музыцы, так і ў жыцці. Мабыць, гэта і адказ на з'яву гурта «Дзецюкі» — быць самім сабою.

Для некаторых сутыкненне ў тэксце імён К. Каліноўскага і С. Балаховіча можа здацца даволі спрэчным і непрымірымым. Як падкрэслівае сам А. Дзянісаў у сваім выказванні, Кастусь гэта лявак, анархіст і рэвалюцыянер, чалавек, якога мы сёння паставілі б на левым баку палітычнай барыкады. А С. Балаховіч гэта постаць, якую мы прыпісалі б да процілеглага палітычнага кірунку — антыкамуніст, выхаваны ў духу крэсава-патрыятычнай сям'і. Іх агульны назоўнік, звязваючы гэтыя дзве асобы — барацьба за беларускую дзяржаўнасць, вядома, разуметую па-рознаму, але ўсё ж змаганне за палітычнае існаванне ў такім ці іншым дзяржаўным характары. Важным аспектам гэтых дзвюх постацей таксама з'яўляецца бунт і нязгода на пануючую ў іхні час сітуацыю, у якой апынуліся беларусы. Былі гэта, напэўна, людзі з беспрэцэдэнтнай харызмай, прытым захаваліся ў свядомасці людзей, якім блізка беларушчына. Падобна не ёсць у поп-культуры, дзе больш прыцягальным, з якім грамадству лягчэй ідэнтыфікавацца, з'яўляецца той, які, хоць і знаходзіцца за межамі закона, мае станоўчыя матывы сваіх дзеянняў. Так ёсць з польска-славацкім Яносікам ці легендарным англійскім Робінам Гудам. І так сёння мы ўспрымаем К. Каліноўскага і С. Балаховіча. У сучаснай беларускай гістарыяграфіі, у якой штурхаецца ўверх вызваленчы эпас Чырвонай Арміі і памяншаецца значэнне ці нават адштурхоўваецца на абочыну Лясных братоў, што толькі ўзбагачае іх імідж. Гэта паказвае, што іх нязгода і антысістэмнасць была чымсьці слушным і прывабным, з другога боку, небяспечным. Моладзь прыцягвае гэтыя неспакойны рамантычны дух матываваны барацьбой за лепшую будучыню.

**Тэкст і фота Міхала ІВАНЮКА**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


Сільвія ГРЫКА
ПШ у Міхалове

## Дзіцём быць...

*Гэтак прыемна і добра*
*дзіцём быць,*
*з матуляй і таткам*
*заўсёды жыць.*
*Каханай быць дачушкай,*
*праводзіць час з бацькамі даволі.*
*Мама купіць каляровыя алоўкі*
*і сшытак,*
*а мая ўсмешка*
*гэта сапраўдны чар.*
*Калі я плачу, мама выцірае слёзкі,*
*хутка адлятае кожна турбота,*
*а мой татка мяне даглядае*
*і турботу таксама праганяе.*
*Вельмі люблю падарункі,*
*калі гэта самыя прыгажунькі.*
*Маё жыццё шчаслівае,*
*бо я — дзіцё маленькае.*



Міхал ЮРЧУК
ПШ у Міхалове

## Жанчыны

*У мяне дома бабуля*
*добрыя стравы варыць,*
*Матуля, мая мілая,*
*заўсёды добрае слова падарыць,*
*Я для бабулі многа кветак*
*за гэта падару,*
*А для матулі песеньку*
*аб каханні вычарую!*



Ніна МАРЦІНОВІЧ
Лешукі, ПШ у Нараўцы

## Мама і тата

*Я кахаю сваю мамку,*
*Бо робіць смачную аўсянку.*
*І тату свайго кахаю,*
*Бо найлепшага татку маю.*

# Канікулы, канікулы...


Адась і Марыся прыйшлі развітацца з настаўніцай

Фота Ганны Кандрацюк


Наталька з татам

— Канікулы? Не, гэта не падарожжы? Гэта дом, гэта сям'я, гэта спакой! Чаму? Сучасныя дзеці вельмі занятыя, — кажа настаўнік Вячаслаў Харужы. — Для іх хочацца пабыць у хаце з бацькамі, пагуляць з сябрамі з суседства...

— Значыць, не будзе экскурсій?

— Будуць, вядома, будуць! Першы тыдзень Наталька правядзе на беларускім летніку, — адзначае бацька. — А пасля паедзем у горы і можа яшчэ на мора...

Наталька Харужая закончыла чацвёрты клас з мастацкімі поспехамі. Яна выйграла агляд беларускай песні ў сваёй школе і бліснула на тэатральнай сцэне як «Крошачка».


Ніка з мамай


Сара з мамай

— А я маю на пасведчанні ўсе «шасцёркі» і адну «пёнтку», — кажа Ніка Паўлоўская. Ніка таксама акцёрка і гаварлівая разумнічка. Сустракаем яе на вуліцы разам з мамай.

— А мы спяшаемся, — адзначае спадарыня Кацярына, мама Нікі, — бо ж дамоўлены ў касметычным салоне.

Ці гэта ўзнагарода за цяжкую працу? Узнагарода належыцца не толькі дачушцы, спадарыня Кацярына — старшыня аб'яднання АБ-БА. Увесь год яна клапацілася, каб выспелі ўсе заняткі і праекты, якія вядзе іх аб'яднанне ў школе.

— А я бачыла сябе ў «Зорцы», — кажа Сара Скаўронская. Сара трапіла на здымак для рэпартажу пра беларускі малебен.

— Як пабачыць здымак бабуля, то вельмі ўцешыцца, — дадае спадарыня Анеля, мама Сары. — Абавязкова ж трэба пахваліцца такім гонарам.

Сара — наша верная чытачка. Яна прымае ўдзел у зорчыных конкурсах і цешыцца, калі выйграе беларускую кніжку. У час канікулаў дзяўчынка прачытае многа-многа новых кніжак. Ужо ад самой думкі ў Сары загараюцца іскрынкі ў вачах!

А ў беларускім класе кранальная атмасфера. Адась і Марыся прыйшлі развітацца з настаўніцай. Маленькая залка свеціцца ад любові і ўзрушанасці. Сама настаўніца Аліна Ваўранюк — шчаслівая як дзіца. Вакол яе мора жывых, каляровых кветак.

(гак)

## УВАГА КОНКУРС! № 28-15

### Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 19 ліпеня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Сядзіць пані на мурку**
**У чырвоным каптурку,**
**Хто ні пройдзе —**
**Спыніць крок,**
**Каб сарваць той каптурок.**
**С.....**

**У лужку-лужочку**
**Выраслі сястрычкі:**
**Залатое вочка,**
**Белыя раснічкі.**
**Р......**

**Адказ на загадкі № 23-15: ліпа, неба, зоркі, месяц. Узнагароду, кніжку «Бусліны востраў», выйграла Мальвіна Маркевіч з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

Наталля Васько
— «Сустрачанскія навіны»

## Як цяжка напісаць верш

*Як цяжка напісаць верш*
*ведае кожны, хто піша.*

*Як цяжка напісаць верш*
*ведае таксама той, хто*
*чытае вершы вялікіх паэтаў*
*і ўрастае ў зямлю.*
*І той, хто*
*на свае вершы*
*глядзіць крытычным вокам.*

*Як цяжка напісаць верш*
*не будзе ведаць той, хто не піша.*

*«...Сёння, ведаеце, хлопцы «падрываюць» дзяўчат на „Мерседэсы”, „Аўдзі”... а я на „Трабанта”!» — гутарка з Дарафеем і Альжбетай Фіёнікамі*

# Дарафей і Альжбета

**Дарафей Фіёнік (музейнік, аўтар і выдавец кніг, аніматар культуры, бацька нашага сустрачанскага сябры Максіма):** — Мой найстарэйшы сын Максім мае 14 гадоў. І так, думаю, што сваю гісторыю пачну з гэтага часу, калі я быў у вашым узросце. У хатцы, дзе сёння музей, жыў мой дзядзька Якуб Кандрацюк. Гэта быў брат маёй бабулі, стары кавалер, але парадачны — не піў, не курыў, толькі чытаў кніжкі і «Ніву». Я беларускай мове не вучыўся ў школе ні гадзіны. Не ведаю, ганарыцца ці не, але я сам навучыўся. Дзядзька мне казаў, каб я хадзіў у кіёск і купляў яму «Ніву». Я ад першага класа прыносіў яму «Ніву», сам яшчэ не чытаў. Толькі з пятага класа, калі пачаў вывучаць рускую мову і пазнаў кірылічныя літаркі, стаў разумець, што напісана ў «Ніве». Вось так, памалу, памалу, я навучыўся беларускай мове. Будучы ў сёмым класе, я ўжо чытаў па-беларуску. Мяне найбольш цікавілі гісторыі вёсак. Дзякуючы майму дзядзьку, які прасіў, каб я даручаў яму «Ніву», я навучыўся беларускай мове.

Зараз у нашым музеі маем усе гадавыя падшыўкі «Нівы», — з першага па апошні нумар. Так што калі каму спатрэбіцца, прыходзьце. Іх перадаў нам бацюшка Рыгор Сасна.

***«...Думка пра музей, прыйшла, калі я прыбіраў хату...»***

— Калі мне было 18 гадоў, — працягвае свой расказ Дарафей Фіёнік, — наш дарагі дзядзька Якуб адышоў у лепшы свет. Перад тым ён запісаў у тастаменце мне сваю хату і 3,5 гектара зямлі з лесам. Я стаў уласнікам зямлі і хаткі, пабудаванай пасля бежанства ў 1925 годзе. Аднойчы, калі я зайшоў у хатку і пачаў прыбіраць, падумаў, што тут будзе музей.

Так што нашаму Музею ў Студзіводах амаль 30 гадоў.

Варта вырашаць важныя справы на парозе дарослацсі! Гэта можа адыграць ролю ў вырашальных жыццёвых справах.

**Альжбета Фіёнік (тэатральны інструктар, аўтар пастановак, добры дух Музея ў Студзіводах, мама Максіма, Ільі і Таісы):** — У 1986 годзе я пайшла на рэйд беларускай моладзі. Тады я была ў ліцэі і мяне называлі «Крынічка» — гэта ад калектыву «Крынічка», у якім мы спявалі беларускія песні. Рэйд пачынаўся ў Студзіводах. Я тады першы раз была ў гэтай хатцы.

**Дарафей Фіёнік:** — Лідарам, які нас збіраў і аб'ядноўваў, быў пан Янка Мордань. Мы многа вандравалі, гулялі ў тэатр. Пасля прыйшоў час, калі ўсе ішлі «на студыя». Я пайшоў вучыццаў праваслаўную семінарыю ў Яблачын, што над Бугам. Тры гады там вучыўся...

Адтуль стаў пісаць у «Tygodnik Podlaski», мне падтрымліваў бацюшка Уладзімір Місяюк, ён заахвочваў, каб я далей пісаў. Памятаю, быў такі момант, калі не было за што выдаваць газету. Я тады сказаў сябрам: «Хлопцы, давайце пойдзем і закалядуем на газету!».

Першая кніжка, якую я выдаў разам са Славамірам Іванюком, гэта «Хроніка царквы ў Чорнай-Царкоўнай». Рукапіс з XIX стагоддзя знайшлі на гарышчы царквы. Ён быў на царкоўнаславянскай мове, таму польскі пераклад зрабіла спадарыня Надзея Артымовіч.

Гэта быў 1994 год.

***«...часам добра, а часам дрэнна мець псеўданім...»***

— Яшчэ раней, недзе ў 1990 годзе, — працягвае сваю гісторыю Дарафей Фіёнік, — я пазнаёміўся з айцом Рыгорам Сасной з Рыбалаў. Я тады друкаваўся пад псеўданімам Мікола Сахарэвіч. Памятаю, як у час аднаго рэйду, мы зайшлі на плябанію, і бацюшка мяне пытае: «Дарафей, а не ведаеш хто такі Мікола Сахарэвіч?». Ён піша цікавыя матэрыялы. Я хацеў бы з ім пазнаёміцца.» Я адказаў: «Выбачайце бацюшка — гэта я».

А другая гісторыя з Міколам Сахарэвічам такая: я напісаў крытычны матэрыял пра тое, што ў адной парафіі занепадае на могілках капліца. Мне пазваніў адзін чалавек і пытае: «Дарафей, ты не ведаеш, хто гэты ідыёт Мікола Сахарэвіч?».

Я не меў адвагі прызнацца што гэта я. Пасля нейкага часу мы зноў сустрэліся і ён да мяне ўжо не адзываўся. Я зразумеў, што мой псеўданім расшыфравалі. Так што бачыце — часам добра мець псеўданім, а часам дрэнна.

***«....Пасля ў маім жыцці былі Сустрэчы „Зоркі”...»***

— Першы раз я быў у Бандарах, дзе з Валяй Бабулевіч і Томкам Савічам рабілі тэатральную сцэнку «Масленіца ў наваколлі Бандароў». Маёй задачай было навучыць трох старых вяснянак. На Сустрэчах здарылася мне такая прыгода... Сёння, ведаеце, хлопцы дзяўчат падрываюць на „Мерседэсы”, „Аўдзі”, а я — на „Трабанта”. „Трабант” гэта такі пластмасавы самаход. Калі мы ехалі на Сустрэчы ў Нарву, ён папсаваўся на пачатку дарогі. На двары было 25 градусаў марозу, а сотавых тэлефонаў яшчэ не было. Калі мы стаялі і думалі што рабіць, над'ехаў іншы самаход, які ўзяў нас на буксір. Гэты чалавек заблудзіўся. Ён хацеў ехаць у Гайнаўку. Мы яму чамусьці падказалі, што найбліжэйшая дарога вядзе праз Нарву.

Па дарозе нашыя машыны стукнуліся, але нікому нічога дрэннага не сталася. У сярэдзіне „Трабанта” было многа людзей і мая будучая жонка Эля.

***Альжбета Фіёнік — асоба, якая займаецца беларускім тэатрам у Бельску.***

— Для мяне найбольш цікава ставіць пастаноўкі пра абрады, — кажа спадарыня Альжбета. — У нашым рэпертуары ёсць спектаклі пра Юр'е, пра жніво. Вядома, дзе абрады, там і песні. Мы таксама ставім спектаклі на аснове гістарычных фактаў, успамінаў людзей. На пачатку група складалася з 5-10 асоб і частка з іх гэта ўдзельнікі Сустрэч „Зоркі”.

Чаму вяду тэатр па-беларуску? У Бельску павінна быць штосьці такое як беларускі тэатр. Была таксама падтрымка майго былога дырэктара Сяргея Лукашука. Ён бачыў у гэтым сэнс, хацеў, каб заняткі з дзеткамі адбываліся па-беларуску. Разумеў, што Дом культуры павінен яднаць палякаў, беларусаў, украінцаў. Сёння ў бельскай «тройцы» працуе некалькі тэатральных груп. Яны таксама выступаюць па-беларуску.

***На канец удзельнікі Сустрэч паставілі сям'і Дарафея і Альжбеты Фіёнікаў пытанне:***

— Ці Вы маглі б жыць у вялікім горадзе, напрыклад, у Варшаве?

— Бельск таксама вялікі горад у сваёй гісторыі, — адказаў Дарафей Фіёнік.

Гутарку апрацавалі ***Оля Буслоўская, Агнешка Петручук, Наталля Васько***
— *«Сустрачанскія навіны»*

# Польска-беларуская крыжаванка № 28-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 24:**

Фея, рэчка, каша, ар, мір, раса, мінак, нос, сон, латаць, біс, як, вянок, нага. Фен, пан, міс, кіно, баран, бо, рай, лік, нос, чарот, краса, цяг, калька.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага, **Сара Скаўронская** з Беластока, **Алек Чарнецкі, Наталля Лукша** з Нараўкі, **Куба Алексяюк, Кася Станько, Тымэк Петручук, Ігар Кардаш, Давід Банькоўскі** з Нарвы. Віншуем!

Grosz
Ten
Krok
Szum
Miara
Tabor
Bodziec
Cel
Lato
Sad
Ar
Ryba
Akt
Okno
Osa
Art

# Вясёлкавы Мінск




Комікс аб пабоях у Брэсце

Дзеячы арганізацыі сексуальных меншасцей (ЛГБТ-актывісты) у Беларусі больш не думаюць пра арганізацыю Парадаў роўнасці, хоць некаторыя з іх, як правіла, бываюць на такіх, хаця б у апошні час у чэрвені ў Варшаве, злітыя ў шматтысячны натоўп, свабодна маршыруючы пад вясёлкавымі колерамі побач з украінцамі і расіянамі. Цяпер яны засяродзіліся на барацьбе перад беларускімі судамі ў абароне скатаваных таямнічымі бандамі, часам амаль да смерці, і на розныя спосабы праследаванымі на глебе нянавісці. Замест парадаў засяроджваюцца на барацьбе супраць гамафобіі і ў карысць талерантнасці, арганізуючы разнастайныя мерапрыемствы: кінафестывалі, выставы, канцэрты, лекцыі.... Некалькі актыўных асацыяцый ЛГБТ (у англійскай мове гэтая абрэвіятура адносіцца да лесбіянак, геяў, бісексуалаў і трансвеститаў, у звычайным сэнсе, аднак, ахоплівае ўсіх негетэранарматыўных асоб) дзейнічае ў Беларусі. Тым не менш, яны ў пастаянным страху перад дзяржаўнымі рэпрэсіямі.

У сярэдзіне мая 2010 года беларуская міліцыя і АМАП прымянілі сілу для прадухілення шэсця Параду роўнасці «Гей-парада» ў Мінску. На іх думку, парад быў незаконным, таму што арганізатары не атрымалі ад гарадскіх улад дазволу на яго правядзенне. Дайшло да жорсткай пацыфікацыі ўдзельнікаў парада, і некалькі асоб былі арыштаваны. Арганізатары казалі тады, што іх мэтай было прыцягнуць увагу грамадскасці да парушэння правоў сексуальных меншасцей у Беларусі. Адзін з лідараў беларускага ЛГБТ-руху Сяргей Андрасенка (цяпер жыве ў Стакгольме) сказаў у той час, што стаўленне ўрада да геяў нясе ўсе прыкметы гамафобіі. Праз год, пасля адпаведнай заявы, улады рашуча не згадзіліся на арганізаванне парада. У кастрычніку 2012 года ў знак салідарнасці з сексуальнымі меншасцямі, узамен восьмага шэсця Парада роўнасці, праз цэнтр Мінска пераехаў вясёлкавы трамвай. Былі тады і семінары, сустрэчы, канцэрты, прэзентацыі публікацый, прысвечаных гэтай тэме. Узімку 2013 г. Праваабарончы цэнтр «Вясна» паведаміў свету, што міліцыя арганізавала відовішчны рэйд на адзіны гей-клуб у Мінску — «6А» (назва ад нумара дома на вуліцы, дзе ён быў размешчаны). Каля дзесяці міліцыянтаў у цывільным ідэнтыфікавала гасцей клуба, а каля сарака чалавек перавезлі ў аддзяленне міліцыі. Пасля высвятлення асобы былі яны вызвалены. Праз кароткі час клуб перастаў працаваць. Цяпер працуе толькі адзін гей-клуб, размешчаны на адной з бакавых вуліц беларускай сталіцы. Цяжка яго знайсці. На невялікім неоне над уваходнымі, знешнімі дзвярыма малюнак жанчыны ў вадэвільным касцюме. Унутры, калі зысці па лесвіцы пафарбаванай у чорна-белыя палосы, побач з партрэтам Мэрылін Манро з назвай клуба на антрэсолі — бар і дзве залы. Маладыя геі прыходзяць сюды найбольш ахвотна ў пятніцы і суботы. Натоўп гуляючых у асноўным на дыскатэцы і пры караоке можна сустрэць тут паміж 12-й ночы і 6-й раніцы. Уваход па пятніцах і суботах да паўночы бясплатны, пасля па 50 тысяч рублёў. 3 ліпеня святкавалі тут Дзень незалежнасці. Спяваў Мікіта Фаміных, маладая зорка беларускай эстрады. «Уезд» — 100 тыс. рублёў, але госці ў вышыванках плацілі ўдвая менш. Уласнік клуба — Ігар кажа неахвотна:

— Калі ласка, не давайце адрас і назву клуба. Я ведаю, што можна знайсці нас у гей-даведніках, але пасля кожнага артыкула, які дзесьці ў свеце пакажацца пра нас, мы маем рэйды міліцыі на нас.

### Не будзе чагосьці такога

Вядома — як і ўсюды ў свеце, немагчыма дакладна ацаніць колькасць людзей з гомасексуальнай арыентацыяй у Беларусі. Кацярына — эколаг па прафесіі, лідар Беларускага праваабарончага цэнтра «Ідэнтычнасць» ацэньвае, што складаюць яны 7-8 адсоткаў дзесяцімільённага беларускага грамадства:

— Мясцовыя актывісты ЛГБТ з арганізацыі «Квір» спрабавалі палічыць тых, якія адкрыта прызнаюцца ў сваёй сексуальнай арыентацыі геяў у менш чым стотысячным Жлобіне Гомельскай вобласці. Налічылі іх каля 250 чалавек.

У апошнія два-тры гады мінскія арганізацыі ЛГБТ змянілі формы дзейнасці. Кацярына:

— Усе гэтыя меры, накіраваныя ўладамі на наша асяроддзе, у тым ліку напад на клуб «6А», былі сканцэнтраваны асабліва на маю арганізацыю, якая раней называлася **«GayBelorus»**. Таксама па прычыне рэпрэсій мы нават змянілі назву. Яны прывялі нас да таго, што мы нічога не маглі зрабіць. Ні адзін з уласнікаў памяшканняў у Мінску не жадаў наняць іх нам. Апошні праект, які мы зрабілі як **«GayBelarus»** зімой 2013 года, быў цалкам праваленым; з пятнаццаці невялікіх праектаў (канцэрты супраць насілля ў адносінах да моладзі ЛГБТ, дакладаў і г.д.), мы былі ў стане зрабіць толькі тры. Мы дзейнічалі ў моцнай канспірацыі, але і так былі пад кантролем КДБ, які здолеў сарваць амаль усе падрыхтаваныя намі мерапрыемствы. Пасля спробы арганізаваць апошні гей-парад у 2012 годзе выклікалі нас у аддзел па наркагандлі і кантролі за трафікінгам МУС, які таксама займаецца ЛГБТ-арганізацыямі, дзе заявілі нам, што «нечага накшталт таксога ў Беларусі не будзе». Раней мы безвынікова спрабавалі зарэгістравацца, спасылаючыся на правa на аб'яднанне і свабоду дзеянняў ды свабоду сходаў. Выходзілі на вуліцу, публічна спрабавалі змагацца за правы ЛГБТ, за што былі пакараны. Цяпер большасць ініцыятыў ЛГБТ засяроджваецца на калямастацкіх праектах і гэта на той момант праходзіць, пакуль, нерэпрэсавана. Тым не менш, выхад з вясёлкавымі сцягамі на вуліцы немагчымы, удзельнікі былі б падвергнуты рэзкай рэпрэсіі. Такім чынам, наша арганізацыя на дадзены момант перастала думаць аб арганізацыі парадаў, таму што пасля таго мы гублялі актывістаў, частка яны самі адыходзілі і фармаваўся вельмі негатыўны імідж ЛГБТ у грамадстве. Нават іншыя арганізацыі, звязаныя ЛГБТ, якія нам дапамагалі, палічылі, што праз такія публічныя мерапрыемствы, як парады, справакавалі мы агрэсіўныя дзеянні ўлад супраць іх, хаця ў чыстым выглядзе абаронай правоў ЛГБТ ніколі яны не займаліся.

### Іншыя тактыкі

У апошнія гады даходзіла ў Беларусі да жудаснай серыі забойстваў геяў. Іх знявечаныя целы былі раскіданы вакол гейскіх месцаў сустрэч. У апошні час у Жлобіне хлопца, які не хаваўся са сваёй гомасексуальнай арыентацыяй, прытым прадстаўніка ў гэтым горадзе арганізацыі па прафілактыцы СНІДу і ВІЧ-інфекцыі сярод гомасексуалістаў, чатыры замаскаваныя злачынцы скатавалі, раней зневажаючы яго з-за сексуальнай арыентацыі, і прыгразілі забіць яго, калі зноў сустрэнуцца ў горадзе. Усё было запісана на камеру. У мінулым годзе, у іншым з гарадоў, гей быў збіты з-за яго арыентацыі і да гэтага часу змагаецца за жыццё ў бальніцы ў рэанімацыі. Мае ён пашкоджана дваццаць адсоткаў мозгу. Злачынец быў арыштаваны і прысуджаны да двух з паловай гадоў пазбаўлення волі за... ненаўмысную траўму. Злачынства не лічылася здзейсненым на глебе нянавісці. Да падобных таямнічых пабояў таямнічымі групамі гамафобаў дайшло ў шэрагу гарадоў Беларусі, напрыклад, у Брэсце.

— Такіх выпадкаў многа, — кажуць актывісты «Ідэнтычнасці». — На жаль, большасць ахвяр не хоча казаць пра іх, не хоча, каб гэтыя справы разглядаліся судом. Яны аддаюць перавагу маўчанню або з'язджаюць куды-небудзь з месца жыхарства.

Кацярына ў размове з намі спасылаецца на іншыя такія пытанні:

— Мы зараз займаемся, між іншым, справай збітага гея, які з'яўляецца ў палове азіятам. Улады не хочуць узбуджаць справы. Па-за гамафобным злачынствам мы тут маем справу з расісцкім злачынствам. Злачынцы раней яго праследавалі і пагражалі, што ў канчатковым выніку будзе жорстка збіты. Мы маем справу з такімі выпадкамі часцей. Стараемся, каб звярнуцца ў суд з паведамленнямі аб здзяйсненні злачынстваў на глебе нянавісці, але да гэтага часу ні адзін суд у Беларусі не ўзбудзіў справы на гэтай глебе. Мы хочам гэта змяніць.

Дадае:

— Зараз у адносінах да правоў ЛГБТ абіраем іншыя, чым раней, тактыкі: адвакацыя і лабіраванне, асабліва ў выпадках злачынстваў на глебе нянавісці. Напрыклад, толькі за тры тыдні ў Жлобіне адбылося чатыры злачынствы на глебе нянавісці. Двое мужчын былі забітыя, а двое былі жорстка збітыя гамафобнымі арганізаванымі групамі. З гэтых чатырох выпадкаў, толькі з адным удаецца нам працаваць, таму што толькі адзін пацярпелы пагадзіўся каб мы заняліся яго выпадкам, каб мы звязаліся ад яго імя з міліцыяй, а затым прадстаўлялі яго ў судзе.

### Надзейная «Вясна»

Кацярына:

— Да 2012 г. не жадалі працаваць з намі нават некаторыя арганізацыі, якія абараняюць правы чалавека ў Беларусі. Многія з актывістаў гэтых арганізацый не хаваюць сваіх гамафобных перакананняў. Тым не менш, мы змаглі змяніць гэтую сітуацыю, не толькі з-за нашых дзеянняў, але таксама дзякуючы замежным партнёрам гэтых арганізацый, якія добра разумеюць, што сітуацыя ЛГБТ з'яўляецца важнай тэмай, звязанай з дыскрымінацыяй у цэлым. Тым не менш, гэта ўдалося не ў дачыненні да ўсіх такіх арганізацый. Некаторыя проста баяцца, што яны страцяць рэгістрацыю з-за супрацоўніцтва з ЛГБТ. Большасць, аднак, дапамагае нам, што вельмі каштоўна, таму што мы не маем сваіх рэсурсаў і карыстаемся, напрыклад, дапамогай іх адвакатаў. Перш за ўсё ніколі не расчароўвае нас Праваабарончы цэнтр "Вясна", а Алесь Бяляцкі гэта наш гуру, бацька, на якога дапамогу мы заўсёды можам разлічваць. Алесь для нас прыклад таго, якім трэба быць абаронцам правоў чалавека і чалавекам у цэлым.

Адной з найноўшых форм дзейнасці мінскага ЛГБТ з'яўляецца арганізацыя кінафестывалю «Дотык», прысвечанага палавой самаідэнтыфікацыі, гамафобіі і ксенафобіі наогул. Яго першае выданне адбылося ў канцы лютага. Паказана пятнаццаць дакументальных і мастацкіх фільмаў. Гэта суправаджалася дыскусіямі, лекцыямі і выставай «Больш Чым ЁН» на гендарную тэму ў галерэі «Ў». Пры фестывалі валанцёрам працаваў Павел, студэнт юрыдычнага факультэта мінскага ўніверсітэта, акцёр аднаго з эксперыментальных тэатраў, заяўлены бісексуал:

— Існуе такі стэрэатып, распаўсюджаны нашымі ўладамі, што Беларусь з'яўляецца вельмі талерантнай. Тым не менш, ці талерантнасць абазначае абыякавасць да «іншых», ці ахвоту зразумець тое, што чалавек хоча быць кім хоча ў кожнай сферы. У гэтых адносінах у Беларусі надалей трэба папрацаваць.

Крымінальная адказнасць за гомасексуалізм была адменена ў Беларусі ў першай палове 90-х гадоў. У 2013 годзе адзін з вядучых незалежных парталаў «Белорусский Партизан» паведаміў, што ў адпаведнасці з планаванымі зменамі ў Крымінальным кодэксе за гомасексуальныя акты можа пагражаць у краіне пакаранне дзесяццю гадамі турмы плюс канфіскацыяй маёмасці. Пакуль што, запіс пра такія змены не быў уведзены.

**Тэкст і фота Мацейя ХАЛАДОЎСКІ**

# На тутэйшым памежжы

Цягнікі ў нашым наваколлі дастаўляюць сваім пасажырам шырокі спектр цялесных і духовых уражанняў. Напрыклад, поезд з Седльцаў у Чаромху плыве па рэйках плаўненька, быццам пад музыку венскіх класікаў. Затое ж цягнікі з той жа Чаромхі ў Беласток і з Беластока ў напрамку Кузніцы тузаюць пасажыравым целам і духам быццам найсучаснейшы найцяжэйшы цяжкі метал. Пасля такой зарадкі эмацыйнай энергіяй звалакаюся на перон у Кузніцы...

Даўнавата быў я ў Кузніцы і за той час шмат тут змянілася. А з'явілася ў Кузніцы мадэрная еўрасаюзная граніца. Не дзесьці за Кузніцай, але на тамашняй чыгуначнай станцыі. Агароджа ўздоўж перона неяк мяне спецыяльна не здзівіла, бо ж агароджаў цяпер, калі ўсё мае месць свайго ўласніка, усюды поўна. Але ўжо разгароджаны металічнай сеткай ход у тунэлі з перонаў на вакзал адразу выклікаў у мяне асацыяцыю з толькі што абнародаванай весткай пра план узвядзення венгерскімі ўладамі шчыльнай загарады на вянгерска-сербскай граніцы; у Святой Зямлі такія загарады нават ужо стаяць. Памаленьку дажываемся свабоды, але з другога боку. Гэта зусім не парадокс, бо ж і часапрастора крывая і запушчаны ў яе нейкі аб'ект вернецца, як бумеранг, пасля нейкага „рускага месяца", адно з супрацьлеглага напрамку. Гэтак жа зараз хапае нас знячэўку за каўнер і кумірная ў нашай частцы свету свабода...

Плошча перад кузніцкім вакзалам, якая яшчэ дзясятак гадоў таму кіпела замежным насельніцтвам, зараз пустая. На тамашнім базары пасля сёмай гадзіны раніцы жыццё набірае разгону — ларкі запаўняюцца тыповай для мястэчак прапановай да абутку і вопраткі ды падручнымі электрапрыборамі. Крыху далей, ужо на вуліцы, прапануюцца мне папяросы...

Няспешна вылажу за межы мястэчка. Дарога ў напрамку Даўгасельцаў у стадыі грунтоўнага рамонту. З другога боку заўважаю саліднейшую агароджу і кіруюся за цікавасцю. За згаданай агароджай праваслаўныя могілкі, куды пакойнікі з'яўляюцца няспешна, адна там па сутнасці дарожка, быццам у вялікім жолабе, якога дно запаўняюць намагільнікі з рознага часу, а бакі поўняцца зеленню і ютранню птушыных галасоў. Гэты райскі настрой на хвілінку перабівае грукат счапляных таварных вагонаў.

Кузніца распаложана каля рэчкі Ласосна, крыху ніжэй па яе цячэнні невялікая вёска Кавалі. Відаць, у пойме ракі было крышку жалезнай руды, апрацоўка якой і дала назвы гэтым мясцовасцям. Дарога між гэтымі мясцовасцямі абноўлена ў апошніх гадах, цяпер тут роўненькая як стол асфальтоўка, якая так у гарызантальным, як і ў вертыкальным разрэзе нагадвае сінусоіду, бо ваколіца перасечаная і трэба неяк лавіраваць паміж узгоркамі Сакольскага ўзвышша.. Раней была гэтая дарога кіравалася проста ў напрамку Новага Двара, пакідаючы збоку вёску Сачкоўцы, але зараз новая асфальтоўка падмяла пад сябе і вуліцу толькі што названай вёскі.

У Сачкоўцах таксама даволі ціха, крыху голасу падаюць толькі нешматлікія куры. Няма ў вёсцы нейкага буйнога будаўніцтва, усё тут падаецца традыцыйным, быццам у застылым у часе скансэне. Амаль на кожным панадворку збудаваны з камянёў склеп для захоўвання гародніны ды на абочыне вуліцы шмат яшчэ захавалася даўняй агароджы панадворкаў, таксама узведзенай з камянёў. З аднаго панадворка даносіцца пах гною. Перад іншым панадворкам двух мужчын, здалёк чую беларускія словы між імі, але калі падыду да іх, яны ўжо пераключаны на камунікацыю на дзяржаўнай мове. Распытваю іх пра дарогу ў напрамку Хварасцян і больш гаваркі з іх ведае толькі асфальтоўку ў Новы Двор і толькі адтуль чарговы адрэзак асфальту ў Хварасцяны. А калі цікаўлюся пра нейкую менш цывілізаваную каротшую дарогу, адказвае, што нейкая ёсць цераз лес, у якім можна папросту заблудзіцца. Відаць чалавек карыстаецца толькі самаходамі і неаўтамабільных дарог звычайна не ведае. Але ж магчыма, што ў яго і іншае меркаванне: ён, як жыхар



Агарод на загуменні Кусцінцаў




За Хварасцянамі граніца

прыгранічнай мясцовасці, хоча захіліць адмысловых мінскіх чыноўнікаў, якіх задача — забарона ўезду ў Рэспубліку Беларусь беларусам, ад магчымага наганяю, калі б нехта такі як я пранік у ахоўваемы імі „рай"...

У Валынцах маю ўвагу прыцягвае старая, пакінутая ўжо даўно хата, але з ювелірна выразаным адным-аднюсенькім надваконнікам; іншыя вокны ўжо без аздабленняў. Перад Кусцінцамі тры высокія крыжы, два з іх у агароджы: лацінскі і візантыйскі. На лацінскім таблічка з надпісам: „Jubileusz roku 2000". На візантыйскім надпісу на таблічцы яшчэ няма — візантыйскі юліянскі каляндар няспешны. Кусцінцы абыходжу загуменнай дарогай, каля якой тыя вяскоўцы, у якіх захавалася яшчэ крыху сіл, заклалі агароды; агароды тыя руплівенька дагледжаны, чысценька аполаны з пустазелля.

Каля Зайздры загарада з памяркоўным табуном коней, аднак гэта не модныя цяпер верхавыя арабы, толькі больш салідная цяглавая сіла. Падаюцца мне яны крыху далікатнаватымі, як на сакольскую пароду гэтых жывёл, але калі яны зараз працуюць столькі, колькі калісь працавалі паны, дык і выглядаюць тыя коні далікатненька, як панскія, а не мужыцкія рукі...

Каля Зайздры скрыжаванне дарог, а побач лацінскі крыж з асаблівым надпісам, які вызначае нацыянальнасць паводле канфесіі. Гэта вельмі тутэйшае вызначэнне і мяркую, што такіх крыжоў у „пазатутэйшай" прасторы хіба нават няма. Да таго ж яшчэ дадаецца і ініцыяцыйны абрад, дзе ўдзельнікі, быццам пастрыгаючыся ў манаскі крыжацкі ордэн, прымаюць новыя імёны...

Зараз за згаданым скрыжаваннем адыходзіць прамая жвіровачка акурат у напрамку Хварасцян. Нягледзячы на асцярогу майго ранейшага размоўцы, кіруюся на рызыкоўны шлях. За непрацяглым пралескам адкрываецца поле, дзе адносна малады чалавек спальвае высечаныя з поля кусты. Распытваю яго пра дарогу, ён ахвотна мяне інфармуе і я далей іду паводле абнародаванай ім лоцыі і неўзабаве выходжу на чарговую жвіроўку, якая заводзіць мяне ў Хварасцяны. Перад вёскай асфальт на шашы, якая, паводле колішніх планаў, мела злучаць гродзенскую і асавецкую крэпасці. Каля двухсот метраў ад далучэння хварасцянскай вуліцы да стратэгічнай шашы шлагбаўмы дзяржаўнай граніцы.

Кіруюся ў вёску. З аднаго панадворка чую, як гаспадар паведамляе ў трубку тэлефона: „Спаварка ў мяне ёсць, толькі пронду няма". І так сабе падумалася мне, што магчыма недзе кіламетр на ўсход, напрыклад у Бялянах, іншы мужык можа крычаць у трубку тое ж самае, толькі крыху інакш: „Зварачны апарат у мяне ёсць, толькі тока няма". Дзяржаўная граніца ў нас такая шчыльная, што нават і слова не праляціць...

Хварасцяны выглядаюць па сутнасці так, як і іншыя вёскі нашай Усходняй сцяны: тут больш мінуўшчыны чым будучыні. На вуліцы брукаваны насціл. На адной з лавак сядзіць двух мужчын — адзін пажылы, можа каля васьмідзесяці, другі ж з выгляду напалову малодшы, адно толькі пад цяжкаватым хмяльком, хаця пара яшчэ даволі маладая — каля адзінаццатай гадзіны. Прабую размаўляць з імі на нядаўна падслуханай мове, але яны — па-дзяржаўнаму.

Хварасцяны зараз пасля вайны апынуліся ў межах Савецкага Саюза; граніца пралягла па задворках вёскі, перасякаючы нават некаторыя панадворкі. Тады бацька майго малодшага субяседніка ўцёк у Новы Двор. Аднак пасля карэктуры граніцы ў 1948 годзе Хварасцяны апынуліся ў Польшчы. У вёсцы была пабудавана мураваная школа; у ліку яе будаўнікоў быў і мой старэйшы суразмоўца. Зараз у вёсцы дзяцей няма і будынак былой школы патанае ў зелені — відаць толькі дах і некаторыя вокны. Была калісь у Хварасцянах невялікая прыватная крама, а зараз наведваюць вёску дзве мабільныя: з Сідры і Харужоўцаў.

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага: „**Chorościany, alias Chworościany, wieś, pow. sokólski, gm. Hrebienie, 26 wiorst od Sokółki, z przysiółkiem Dubnica 740 dziesięcin włościańskich i 153 dworskich.**" Пра прысёлак: „**Dubnica, przys. wsi Chorościany, ferma, uroczysko i obręb leśny, pow. sokólski, gm. Hrebnica, 23 wiorsty od Sokółki. Ferma archijereja grodz. ma 312 dziesięcin, uroczysko własność Sadowskich ma 34 dz., obręb leśny Kurłowych 257 dz. Dubnica Mała, ferma, tamże, stanowi uposażenie monasteru w Grodnie, ma 175 dz.**".

Прысёлак той астаўся за граніцай, цяпер у межах Беларусі. Як паведамляе Вікіпедыя, у 1999 годзе пражывала там 50 чалавек, а ў 2010 — 41. Дзяржаўная граніца перасякла таксама вобруб вёскі Бяляны, ад якой некалькі хутароў асталося ў Польшчы і зараз яны прапісаны да Хварасцян. А з беларускага боку ў Бялянах у 1999 годзе пражывала 182 чалавекі, а ў 2010 —133. Беларуская Заходняя сцяна абязлюджваецца не меншымі тэмпамі, чым польская Усходняя...

Калі ў канцы XIX стагоддзя пісаўся згаданы Геаграфічны слоўнік, не было адной вёскі, якой няма і цяпер — асталася толькі тапанімічная памятка. А была гэта вёска Дубніца-Курпёўская, якая з'явілася між Дубніцай і Кусцінцамі ў 1930 годзе. Менавіта санацыйныя ўлады пасялілі туды курпёўскіх асаднікаў, а гітлераўскія ўлады высялілі іх і вёску спалілі. Цяпер па ёй астаўся толькі памятны крыж пры самай граніцы з польскага боку.

Ад Хварасцян у Новы Двор вядуць аж тры дарогі. Адна — гэта згаданая раней стратэгічная міжкрапасная дарога з Гродна ў Асавец. Другая, гэта таксама даўняя дарога, якая вяла з Новага Двара ў Бяляны. А трэцяя дарога пайшла па насыпе былой чыгуначнай лініі між Гроднам і Сувалкамі. У Новы Двор падаўся я „бялянскай" жвіроўкай.

У Новым Двары, так як і ў Кузніцы, быў я ўжо даўнавата. І там відаць змены. Ажыў крыху колішні геэсаўскі гандлёвы комплекс, што быў размешчаны на ўсходнім краю навадворскага рынка. Затое зніклі іншыя крамы. З'явіўся і рэстаран, і то не абы-які — „**Nowy Jork**". Магчыма, што недзе ў Нью-Йорку працуе нейкі рэстаранадвайнік навадворскага...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

**Размова з Віктарам МАСЛЕННІКАВЫМ, загадчыкам Народнай харавой капэлы „Раніца” з Мінска, якая стала пераможцам XXXIV Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Беластоку ў катэгорыі свецкіх хароў.**

# Капэла „Раніца”



**— У кароткім апісанні Вашай капэлы, што ў фестывальным буклеце, згадваецца, што Вы з’яўляецеся выпускніком музычнага вучылішча ва Уфе. Вы родам не з Беларусі?**

— Я з Расіі. Я закончыў ва Уфе вучылішча мастацтваў, пасля інстытут мастацтва, як ён тады называўся; цяпер гэта акадэмія. Тады ён быў філіялам маскоўскага Гнесінскага педагагічнага інстытута. Быў там філіял, многа педагогаў прыехала з Гнесінкі, і з ленінградскай кансерваторыі.

**— А Вы самі родам з Башкарстана ці з іншага рэгіёна Расіі?**

— Я родам з глухой башкірскай вёскі, там возера Кандракуль, там вёска Канстанцінаўка...

**— А як Вы трапілі ў музыку?**

— Выпадкова. У сям’і ўсе спявалі, бацька іграў на хромцы. Але ў той час не адпускалі дзяцей з вёскі, не давалі пашпартоў. Я ва Уфе вывучыўся на электразваршчыка, нават з вылучэннем. А там, у прафтэхвучылішчы, быў дырыжор хору, які, калі пачуў як я спяваю, адразу сказаў мне паступаць у музычнае вучылішча. І я прыйшоў у музычнае вучылішча, не маючы ніякай музычнай падрыхтоўкі.

**— Вы вырваліся з вёскі дзякуючы свайму голасу...**

— Так, дзякуючы голасу. Я заўсёды любіў спяваць, люблю музыку і не здрадзіў ёй за ўсё сваё жыццё.

**— А як Вы трапілі ў Беларусь?**

— Мая дваюрадная сястра была замужам за палкоўнікам, камандзірам ракетнай часці, якая стаяла каля Мінска. Я быў прыехаў да іх у госці. Я тады сама заваршаў вучылішча і яны кажуць — прыязджай да нас. І я прыехаў у 1978 годзе, мяне адразу прынялі ў Дзяржаўную акадэмічную капэлу Шырмы, праслухалі і даручылі мне быць салістам. Я там спяваў, пасля склаў дакументы ў Педуніверсітэт імя Максім Танка, і прайшоў па конкурсе на пасаду выкладчыка. Тады ўзяў дзіцячы хор, каб падзарабіць. Спачатку быў гэта дзіцячы хор „Раніца”, з ім займаліся таксама мае студэнты, якія з гэтым хорам здавалі экзамены. Пасля гэты хор вырас у капэлу. Затым я перайшоў у Нацыянальны цэнтр мастацкай творчасці дзяцей і моладзі. І там працую ўжо дваццаць гадоў.

**— Вы працуеце з Народнай харавой капэлай „Раніца” з 1987 года. Які ў Вас рэпертуар?**

— У асноўным мы спяваем класіку, рускую класіку, беларускую, духоўную музыку, спірычуэлс, сучасную музыку. Мы працуем на ўсе напрамкі, аднак у асноўным у нас акадэмічны спеў.

**— Гэтыя розныя музычныя жанры выконваюць тыя самыя ці розныя людзі?**

— Тыя самыя.

**— Вы прыехалі ў Беласток не ўпершыню?**

— Мы тут чацвёрты раз. Упершыню мы сюды прыехалі ў 1998 годзе, сталі лаўрэатамі, атрымалі другі прыз — тысячу долараў. Пасля былі ў 2001 годзе, і яшчэ раз, здаецца ў 2005, Мікалай Бушко запрасіў тады ўсіх лаўрэатаў на юбілейны, дваццаць пяты фестываль. Я сюды прыязджаю з ахвотай, мне Польшча падабаецца, гэта высокаразвітая ў культурным ракурсе краіна. Тут выдатная харавая культура, вельмі цікавая. Я адкрываю перад сабою Польшчу — тут многа цікавых, інтэлігентных людзей, якія любяць, разумеюць і вельмі прыязна адносяцца да мастацтва.

**— Дзякую. Ваша капэла бывала ў многіх краінах. Ці можаце назваць самыя вядомыя месцы, дзе Вы бывалі?**

— Мы былі ў Амерыцы, па лініі Мінгарвыканкама, тады яшчэ за Герасіменкі, у рамках культурнага абмену. Мы вельмі многа бывалі ў Германіі, у Аўстрыі — мы нават спявалі ў Залатой зале Венскай філармоніі, дзе адбываюцца славутыя сімфанічныя канцэрты. Былі ў Францыі, у Швейцарыі, у Бельгіі, у Галандыі; мы ездзілі вельмі многа.

**— Па Еўропе. А на поўдзень ці на ўсход Вы ездзілі?**

— Не, у асноўным толькі па Заходняй Еўропе.

**— У Вашым рэпертуары народная музыка; якіх народаў?**

— У асноўным беларуская і руская народная музыка.

**— Дзякую Вам і жадаю далейшых поспехаў.**

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



# http://philology.by

Тое, што беларуская мова перажывае зараз далёка не лепшыя часы, пэўна сакрэт толькі для лукашэнкаўскай улады, якая прыклала ўсе свае намаганні да стварэння такой сітуацыі. Разам з тым беларуская мова яшчэ жывая, хоць можа падаць, што яе жыццё згасае. Таму вельмі важным у такіх умовах з’яўляецца вывучэнне мовы, то-бок тое, чым займаецца філалогія. Беларускую філалогію таксама вывучаюць, хоць значна менш, чым колькі гадоў таму. Прыклад гэтаму — сітуацыя з беларускай філалогіяй ва ўніверсітэце ў Беластоку. Тым не менш такой навукай яшчэ цікавяцца людзі, яшчэ існуюць сайты, дзе распавядаецца пра яе. Адным з такіх нешматлікіх сайтаў аб беларускай філалогіі з’яўляецца старонка ў інтэрнэце, што знаходзіцца па адрасе **http://philology.by**.

Калі цікаўны карыстальнік сусветнага сеціва зазірне на даную старонку, то нічога адметнага ён там не заўважыць. На сайце практычна няма ніякіх цікавых аздабленняў, і ўвогуле выглядае ён даволі бедна і сціпла. На сіне-белым фоне выяўлення размешчаны дзве часткі, дзе знаходзіцца інфармацыя, так ці інакш датычная беларускай філалогіі. Большая левая частка з’яўляецца свайго роду стужкай навін і абвестак. Праўда, абнаўляецца яна не надта часта. Так, апошняе паведамленне месячнай даўніны, і распавядаецца там пра Міжнародны кангрэс беларусістаў, што адбыўся ў Мінску напрыканцы мая. Распавядаецца пра яго ў цяперашнім часе, і ніякіх падсумаванняў мерапрыемства няма, хоць дзён з той пары мінула дастаткова многа.

Нягледзячы на тое, што сайт прысвечаны, здаецца, беларускай філалогіі, частка матэрыялаў падаецца на рускай мове. Пры гэтым нідзе не тлумачыцца, чым абумоўлена такое філалагічнае двухмоўе, нават на старонцы „Пра сайт”.

„Сайт створаны ў першую чаргу дзеля таго, каб збіраць публікацыі па беларускай філалогіі, а таксама кнігі і артыкулы беларускіх навукоўцаў на мовазнаўчыя тэмы. Мы, стваральнікі сайта, належым да пакалення, якое спачатку шукае ў інтэрнэце, а потым толькі, калі нічога не знойдзе, змушана ідзе ў бібліятэку”, — распавядаюць чацвёра навукоўцаў, прозвішчы якіх падаецца ніжэй за тэкст з прэзентацыяй сайта. Сваёй задачай-максімумам яны ставяць зрабіць сайт „зернем крышталізацыі навуковага жыцця, месцам, дзе будзе збірацца і структуравацца філалагічная інфармацыя”.

Яны запрашаюць карыстальнікаў зазірнуць на старонку „Наш гурток”, каб даведацца пра іхныя навуковыя інтарэсы. На ёй усе інфармацыя падаецца не на беларускай мове. З гэтага становіцца вельмі дзіўным і цікавым, што ж гэта за інтарэсы ў людзей нібыта апантаных беларускай філалогіяй, пра якія немагчыма распавесці па-беларуску?

Арыгінальнай на сайце аказваецца старонка „Асобы”. Там расказваецца пра некаторых філолагаў, якія, па ўсім відаць, нейкім чынам спадабаліся распрацоўшчыкам сайта. Іншым спосабам патлумачыць размяшчэнне там партрэтаў і расповедаў немагчыма, бо незаўважанымі засталіся якія-небудзь крытэрыі адбору.

У той жа час карысная падаецца старонка „Архіў”, дзе месціцца ўсе артыкулы, якія былі апублікаваны на сайце з чэрвеня мінулага года да сёлетняга мая.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ






На ўсё жыццё звязаны з Вільняй

## 115 гадоў з дня нараджэння Пётры Сергіевіча

Рыхтуючы гэты матэрыял, са здзіўленнем агледзеўся, што пра Пётру Сергіевіча досыць мала напісана. Нібыта імя мастака цэлы час на слыху, а грунтоўнага жыццяпісу пасля працы вялікага руплііўца беларушчыны Арсеня Ліса, якая выйшла ў далёкім 1970 г., яшчэ пры жыцці мастака, больш хіба не з’явілася.

Нарадзіўся Пётра Сергіевіч 10 ліпеня 1900 г. у вёсцы Стаўрова на Браслаўшчыне. Пачатковыя мастацкія навыкі атрымаў у Вольнай школе малявання і жывапісу Адама Варнаса ў Вільні. Пасля вучыўся ў Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя. Мастацкі факультэт гэтай установы ўзначальваў прафесар Фердынанд Рушчыц. Менавіта ён спрыяў фармаванню Пётры Сергіевіча як майстра пейзажа, партрэта, манументальнага роспісу. Яшчэ адным настаўнікам быў Людамір Сляндзінскі. Але натура мастака прагнула новых ведаў і Сергіевіч у 1924 г. выправіўся на навучанне ў Кракаўскую акадэмію мастацтваў, дзе правёў амаль два гады. У 1928 г. вярнуўся ў Вільню, быў актыўным прыхільнікам і ўдзельнікам беларускага адраджэння ў 1930 гг.

Ужо з другой паловы 1920 гг. мастак актыўна выстаўляе свае творы. У 1932 г. узяў удзел у калектыўнай выставе Віленскага таварыства мастакоў, якая прайшла ў Вільні і Варшаве. Праз тры гады ў Вільні, з якой Сергіевіча звязвала ўсё жыццё, прайшла персанальная выстава. У 1938 г. мастак падарожнічаў па Італіі. У час вайны жыў у Вільні і ў родным Стаўрове (Шляхотчыне). У 1943 г. адбылася другая персанальная выстава ў Вільні. У 1944-1945 гг. Сергіевіч працаваў захавальнікам фондаў Беларускага музея ў Вільні, пасля вайны — старшым выкладчыкам на кафедры малюнку і жывапісу ў Віленскім інстытуце прыгожых мастацтваў. У 1960 г. атрымаў званне заслужанага дзеяча мастацтваў Літоўскай ССР. У Вільні праходзілі яго юбілейныя выставы, у 1962 г. — персанальная выстава ў Мінску ў Палацы мастацтваў, у 1968 г. — у знакамітай варшаўскай „Захэнце”, у 1978 г. — зноў у Мінску.

Жывапісныя працы мастака вылучаюцца мастацкай завершанасцю і глыбокім псіхалагізмам. Значнае месца ў творчасці Сергіевіча займаюць партрэты класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы. Таксама ў яго палотнах закранаецца тэматыка Другой сусветнай вайны, прыгажосць роднай прыроды. Пётра Сергіевіч працаваў таксама ў станковай і кніжнай графіцы, пісаў іконы, а таксама распісваў касцёлы. На Гродзеншчыне яго працу можна пабачыць у Смаргонях, а таксама мястэчках Солы, Жодзішкі, Поразава.

У 1940 гг. Сергевіч актыўна ўдзельнічаў у перадаванні каштоўнасцей Беларускага музея з Вільні ў Мінск. Дзякуючы таксама яму зараз фонды Дзяржаўнага музея Янкі Купалы ў сталіцы Беларусі налічваюць 14 прац мастака. Частка прац размешчана ў Мастацкім музеі. Агульная ж спадчына мастака налічвае каля 600 твораў, большасць якіх зберагаецца ў Літоўскім музеі мастацтва.

Памёр Пётра Сергіевіч 1 лістапада 1984 г., не дажыўшы да сваіх 85-х угодкаў. Пахаваны на віленскіх вайсковых могілках, што на Антокалі. У Вільні на доме, дзе жыў мастак цягам доўгіх гадоў (1942-1984), была ўсталявана мемарыяльная дошка па-літоўску і па-беларуску. У 1994 г. Белпошта выпусціла адмысловую марку, прысвечаную Сергіевічу. Працы мастака маюць вялікую вартасць. Пра гэта сведчыць і той факт, што некаторыя з іх былі падараваныя амбасадзе Беларусі ў ЗША.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Фота Уладзіміра СІДАРУКА



# Рэпчыцкія кар'еры

Рэпчычы — невялічкая вёсачка ў Кляшчэлеўскай гміне. Налічвае дваццаць чатыры забудовы (некалькі ўжо пустуюць), у якіх пражываюць сорак чатыры жыхары. Самымі старэйшымі лічацца Марыя Тымашэвіч і Марыя Маркевіч — 1934 года нараджэння. Солтысам з'яўляецца Міхал Бішчук. У апошніх гадах трансфармацыі многае ў салэцтве перамянілася. Праграэс наступіў пасля здачы ў карыстанне вадаёма. Імпрэза з вялікай помпай адбылася 14 верасня 2002 года. З таго часу Рэпчычы сталі вядомымі на Падляшшы. Своеасаблівы краявід навакольных палёў, сенажаці ды багаты ў грыбы лес вабяць аматараў загарання і купання. Вадаём каварным аказаўся для гэтых апошніх. У першых пачатках вада паглынула дзве ахвяры.

Атракцыёнам для наведвальнікаў з'яўляюцца кар'еры. Гэтыя выемкі памятаюць царскія часы. Адсюль чэрпалі жвір на пабудову чыгуначных ліній Чаромха — Беласток ды Чаромха — Гайнаўка. З цягам часу пазарасталі яны буйнымі кустамі і дрэвамі.

Пра мінулае Рэпчыч расказвалі мне калісьці старажылы вёскі Аляксей Маркевіч, Анна Янушык і Фёдар Ліпінскі. („Рэпчыцкі аповед" — „Ніва" № 52 ад 24 снежня 2006 года). Гэта было дзевяць гадоў таму. Маіх суразмоўцаў няма ўжо ў жывых. Адышлі ў вечны спачын. Але іхнія аповеды засталіся ў памяці патомных. Вось што сказаў у час сустрэчы Пятро Янушык, 65-гадовы жыхар вёскі.

— Месца ў кар'еры, дзе была закатавана дзяўчына з Дабрывады, занепадае. Людзі бяруць тут жвір. Неўзабаве насып з хваінай рухне. Ад магілкі ямка засталася. Сямейнікі цела перавезлі на вясковы могільнік. Каб увекавечыць месца смерці, я жэрдкамі аблажыў ямку. Крыжык гваздзямі да сасны прышпіліў. Прыедзь, Валодзька, зафіксуй гэта на здымку дзеля памяці.

Згадзіўся я з прапановай прыяцеля, паколькі хацеў сфатаграфаваць перамены ў кар'ерах (ёсць іх тры: стары, сярэдні і вітувскі), якія ўчыніла цягам гадоў натура. У маладосці прыязджаў я сюды ў грыбы. Пышныя рыжыкі ды баравікі там раслі.

З Петрусём Янушыкам падаліся мы першнаперш у сярэдні кар'ер. Было гэта на Міколу 22 траўня. У мяжуючым з вадаёмам лясочку, непадалёк асфальтоўкі, пакінулі мы ровары і далей пайшлі пешшу. Цяжка было прабірацца праз зараснік паміж хваінай. Спыніліся на горцы з відавочнымі катлаванамі, пакрытымі абшыўкай лесу.

— Гэтыя выемкі, — паясняе мой праваднік, — гэта месца па кулямётных пазіцыях. Адсюль рускія ў вайну вялі абстрэл чыгуначнай станцыі. У крайняй, што на беразе, злачынца з Тафілаўцаў схаваў сваю ахвяру. Цела прыкрыў галінамі дрэў. Вясною наступнага года, збіраючы грыбы, Марыся Пракопава выявіла таямніцу. Злачынцу засудзілі на дваццаць пяць гадоў турэмнага зняволення.

З вяршыні насыпу паглядаю ўніз на свежараскопаную выемку.

— Гэта адзінае месца, адкуль чэрпаем жвір, — паясняе Янушык.

— Да каго належыць жвіроўня? — пытаю.

— Кажуць, што гэта ўласнасць чыгункі. Пры царскім парадку ўчастак выкупіла чыгунка і так засталося. Жвіроўняй зараз усе карыстаюцца...

З сярэдняга кар'ера падаемся ў вітувскі, дзе здарылася іншая трагедыя.

— Двух братоў з вёскі Чаромхі паехалі ў кар'ер за ракітай, — працягвае аповед калега. — Там дайшло да спрэчкі. Мацнейшы зарэзаў брата. Злачынства выявілася. Цела забралі сямейнікі і перавезлі на могільнік у Чаромху. У гэтым месцы дзядзька Піліп устанавіў крыж. Наглядаю за ім. На Вялікдзень на месца трагедый прыношу лампадкі...

Вяртаемся назад. Паглядаю на зараснік вітувскага кар'ера. Як патлумачыў мой ветлівы прыяцель Пятрусь Янушык, тут кляшчэлеўскі бургамістр меркаваў збудаваць гасцініцу для турыстаў, якія наведваюць Рэпчыцкі вадаём. Але пакуль што ідэя засталася адно марай.

**Уладзімір СІДАРУК**



## Адгаданка

1. часціна мовы, якая абазначае дзеянне, 2. рака ў Расіі, якая з поўдня ўліваецца ў Фінскі заліў, 3. антонім міру, 4. дзяржава між Балтыкай і Карпатамі, 5. пляцоўка для абмалоту збожжа, 6. межавая рака на поўначы Кітая, 7. аналітычнае вучэнне, 8. выхаванец царскага ваеннага вучылішча, 9. правы прыток ніжняй Одры, 10. раённы цэнтр на ўсходзе Гродзенскай вобласці, 11. баравік або масляк, 12. межавая рака на поўначы Афганістана, 13. уліваецца ў Дняпро каля Рагачова, 14. тое што было, мінулае.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | |
| | 1 | | | | | 2 | | | |
| 3 | | | | | 4 | | | | |
| | | 5 | 6 | | | | 7 | | |
| | | | | 8 | | | | | |
| | | | | 9 | | | | 10 | 11 |
| 12 | | | 13 | | | 14 | | | |

У светлых палях атрымаецца рашэнне — савецкая калгасная пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 25 нумара**

Баабаб, войт, Столін, тытан, хор, Мадагаскар, шум, Карпаты, Аклахома, камертон.

Рашэнне: **Багаты той, хто рады таму, што мае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 12.07 — 18.07

**(22.03. — 20.04.)** 14-18.07. будзеш умець засяродзіцца на найважнейшым, бязмежна аддасі сябе важным справам. Добры час на важныя рашэнні, планы. Але можа падвесці цябе хтосьці, па кім ты гэтага не спадзяешся. Будуць таксама іншыя нявеітлівыя асобы. 13-17.07. можа здарыцца такое, што цяжка будзе табе вярнуць давер. 15-17.07. не ідзі на аперацыю, бо магчымыя ўскладненні.

**(21.04. — 21.05.)** Добры час на завяршэнне старога і пачатак новага. Магчымае павышэнне ці атрыманне чагосьці ў спадчыну. Дапільнуй усіх фармальнасцей, калі акажацца, што хтосьці табе штосьці запісаў, бо страціш магчымасць гэта ўзяць. 12-16.07. асцерагайся нячыстай гульні, бо калі не, адкажаш за гэта. Могуць цябе разлічыць з кожнага абяцання.

**(22.05. — 22.06.)** Пазбягай злосных заўваг і непатрэбных каментарыяў, бо папсуеш адносіны ў пары ці з сябрам. У другой дэкадзе ліпеня адкрыеш, што шмат у табе скрыванай злосці, якую мусіш разгрузіць, бо зашкодзіш свайму сэрцу, найслабейшаму свайму органу ў ліпені. 11-14.07. вельмі цікавыя сустрэчы. 14-18.07. можаш стаць ахвярай плётак на працы.

**(23.06. — 23.07.)** 12-16.07. адкрыюцца перад табою новыя магчымасці. А таксама дасі рады нямогласцям у здароўі. Вельмі добры час на ўсялякага роду тэрапіі. Адчуеш папраўу таксама ў настроі. Хаця адна асоба акажацца няшчырай, зменіць фронт. Ад сяброў будзеш патрабаваць канкрэтных дэкларацый, хто стаіць за табою.

**(24.07. — 23.08.)** 13-17.07. пільнуйся ад сур'ёзных перашкод — лепш змяні тактыку. Не падкаляроўвай рэчаіснасці, бо няхоцькі страціш «пункты». Не бойся прызнацца да памылак — супрацоўнікі даруюць табе. Калі мучаць цябе нейкія старыя непаразуменні, абавязкова паразмаўляй аб гэтым. Будзь вельмі асцярожным, бо ў гэтым тыдні пагражаюць табе кантузіі.

**(24.08. — 23.09.)** 11-14.07. не балбачы аб сваіх справах. 14-18.07. пільнуйся — выяўляючы чыйсьці сакрэт, можаш трапіць у кабалу. Вельмі сачы за дзецьмі, бо патрэбна будзе тваё рашучае ўмяшанне. Усё што перажываеш, не пойдзе дарма. А адпачынак перакладзі на позняе лета або пачатак восені. Дзева, якая папраўляецца пасля хваробы, няхай не перанатужваецца.

**(24.09. — 23.10.)** 12-16.07. будзеш трохі расстроены; не бярыся цяпер за важныя рашэнні і вызначэнні. Пасля Венера, перасоўваючаяся ў знак Дзевы, пазволіць пазбегнуць табе памылак і зрабіць разумныя выбары. Варта пачаць штосьці новае, а перш за ўсё адцяцца ад мінулага. Ліпень — добры час на хірургічныя ўмяшанні, заплануй іх найлепш пасля 16.07.

**(24.10. — 22.11.)** Не слухай дарадчыкаў, якія хочуць цябе падбурыць супраць шэфа. 13-17.07. магчымя праблемы з людзьмі. Скарпіён без пары няхай разгляняецца па-за кругам знаёмых — маеш шанц пазнаць кагосьці вельмі цікавага, хто можа аказацца каханнем твайго жыцця. У штодзённае хатняе жыццё можаш увесці змены. Добры час на дыеты і пахудзенне. Скарпіёны народжаныя пасля 15.11. будуць слабейшымі, няхай пільнуюць асабліва свае горла і гартань.

**(23.11. — 22.12.)** Найлепшы час на сустрэчы і фізічную актыўнасць. Выберыся да дантыста і касметолага. Пакарыстайся натуратэрапіяй (зёлкі, акупунктура, масажы) — усё будзе вельмі паспяховым. Але 12-16.07. цяжка будзе табе дагадзіць, будзеш марудны і пераборлівы, прытым яшчэ і недаверлівы.

**(23.12. — 20.01.)** 15-17.07. можаш трапіць у пастку, пастаўленую на кагосьці іншага, можаш адчуваць сябе горш. 16.07. адкрыецца ў тваёй пары новы раздзел, забудзьце пра тое, што вас раз'ядноўвала. Мноства працы, але і многа ахвотных табе дапамагчы.

**(21.01. — 19.02.)** 14-18.07. будзеш апэратыўны і адважны. Можаш шмат здабыць. Шчасце на працы. Вадалеі народжаныя пасля 15.02. няхай вельмі дбаюць аб свае вочы. У адносінах з Ракам і Рыбамі варта ўступіць, каб мець прыбыткі.

**(20.02. — 21.03.)** 11-15.07. шчасце ў бізнесе. Заключыш карысную дамову. Пазнаюцца на табе як на асобе паспяховай і знаходлівай. Разлічвай на дапамогу і не бойся яе папрасіць. Пільнуй рахункаў і лепш не раскідвайся грашыма. Тыя, што шукаюць працу, няхай будуць як найбольш актыўнымі — прапановы пасыплюцца як з рукава.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1000 egz.




Марыя Сашка

# Аднойчы ў Венецыі (ч.ІІ)

* * *

У Мілане селі спакойна, плаўна. Народ паспяшаўся да аўтобусаў ідучых да аўтавакзала, дзе кандуктары, у свой час, прасвісталі Трыест, Рым, Венецыю... Што за гарады па дарозе!.. Верона — з Рамэо і Юліяй, Джульетай, як кажуць італьянцы; Падуа — дзе славуты ўніверсітэт, базіліка Сан-Антоніо з фрэскамі Джыётта, і — добры дзень, вечар — b-o-n-a-s-e-r-a табе, Венецыя мілая!.. Вакзал — назва якая! — Stazione Ferroviaria Santa Lucia!.. Санта Лючыя! — спяваць адразу кожнаму хочацца!..

Як жа Даніэль кахала гэты горад! З першага свайго прыезду, тады — у сонечны дзень гадоў чатыры таму, калі яна тут схавалася, сябе аднайшла, у безыменным натоўпе турыстаў, супакоілася, пасля варшаўскай абароны прафесарскай дысертацыі, калі быў поспех у навуцы і нічога не склалася з Ванем, які паспешліва *пагнаў* у Нью-Йорк, як з сабою не клікаў, баяўся нават, што яна на сілу захоча паляцець; пра якога цэлая Варшава і палітэхніка гудзелі, што «за Водамі» ён за рэктарскую дачку месца люкратыўнае ўжо атрымаў, пры «с-а-м-ы-м»!..

Убаюкалася яна была, праўда, у гэтага Ваню! Прыемны і мілавідны быў гэты панічок-хлопец, гэты беластоцкі вусач-барадач! У сваім будаўніцтве «на палібудзе» Ванік паспешліва «кумекаў», разы два яго направілі ў ЗША на практыку, дзе «аказія» хутка падляцела, паненка падляцела, не першай масці і гадоў, «падлажылася» ва ўік-энд, пад Вашынгтонам... Нібы смехамжартамі на лыжах-санках пракаціліся, ды «затрымаліся» ў рэктарацы, у г-а-л-о-ў-н-а-г-а Daddy! Ён Ваню заявіў, што яго дачка не «polo-stick» (клюшка для ігры ў пола); не «pone» (кукурузная ляпёшка): не «pomace» (яблычны выжымкі ад соку); што «Very nice Polish John not poltroon» (не трус а мужчына); што ён, рэктар калісь, гэтак жа менавіта (гісторыя любіць, відаць, паўтарацца!) ажаніўся і такім жа чынам трапіў-увайшоў у свет навукі і рэктарскую сям'ю, бач і да рэктара дайшоў! Што і яго жонка не была Ava Gardner ці Julia Roberts! Мужчынам ты, хлопча, аказаўся ва ўік-энд, дачка ашалела «ад кахання», акажысь і цяпер — сёння, бо ўцечкі не будзе ў Польшчу — абезгалоўлю! Мілуйцеся, кахайцеся, а ўсё другое не ваша дзела, прылажыцца вам! І так: «more power to you elbow» (зычу поспеху!), «please, Liz, John, dear my boy and son, come and take pot luck with us!» (паабедайце з намі)!..

* * *

Venezia, Venetia, Venexia, Venessia, Venice! — пішуць пра яе. На астравах-астравах-астравах, кажуць, іх дакладна 118!.. Адрыятычнае мора, каналы, масты, лагуны, палацы, гандолы, водныя трамваі-вапарэтты. Якія спеўныя тут нават самыя назвы! — Canale Grande, Ponte di Sospini (што гэта за назва сардэчная: Мост Уздыханняў!), Ponte di Rialto, Palazzo Ducale (дзе жылі і правілі граданачальнікі — дожы), Palazzo Spinelli, Palazzo Grassi!.. Колькі музыкі ў назвах: Chiesa di San Pietro, San Francesco delle Vigna, Santa Maria della Salute, Madonna dell' Orto, Angelo Rafaelle, Giorgio Maggiore, Torre dell' Orologio (часавая-гадзіннікавая вежа), ну і — цуда цудаў: Piazza et San Marco, сабор — веліч і краса з XIV-XV стагоддзяў, хаця пачаткі базілікі кранаюцца яшчэ і IX веку...

Назвы — назвы — назвы! Музыка — музыка — музыка наўкругі!.. У Ospedale della Pieta, на пачатку XVIII ст., дзяўчацкім хорам і аркестрам кіраваў Антоніо Вівальдзі; так, так, той ад «Чатырох пораў года»; яшчэ раней, у святога Марка, дзе было н-е-к-а-л-ь-к-і хароў, працаваў «maestro di capelli» — Клаўдый Мантэвердзі, першы класік-бацька сусветнай оперы, са сваім «Арфеем» і «Каранацыяй Папеі», якія — адно і другое — славілі ўсемагутную любоў-каханне... Адсюль пайшлі і кансерваторыі — сіроцкія дамы, дзе дзяўчатак і хлапчукоў вучылі розным спявацкім справам... Хто ц-я-п-е-р паверыць, што ў канцы XVII стагоддзя было тут... 16, так-так — але ж — 16 о-п-е-р-н-ы-х тэатраў; што тут першыя свае шэдэўры ставіў Джузепе Вердзі (тут было «Рыгалета»), а Ігар Стравінскі, рускіх карэнняў кампазітар (яго «Свята вясны», яго!) нядаўняга XX веку сваю оперу «Жыццё распусніка» выставіў у славу тым тутэйшым Teatro la Fenice...

* * *

— Ну, калі верыць у сілу-мацату супадзення выпадкаў, значыць, першыя крокі Даніэль прадвяшчалі ў Венецыі цэлае пасма няўдачных дзён!.. Трудна паверыць: Тут? Няўжо? Сярод гэтай цудадзейнай красы? Эй-эй-гэй!.. Бачыш, Данусь, Mademoiselle Danielle Darieaux, радавітая варшавянка, з прозвішчам па бацьку французе, што свой Парыж кінуў для Варшавы — для сваёй Mademoiselle Sophie — вось табе, варшавяначка, прывітанне: забастоўка трамвайшчыкаў-вапарэтаў, што заўсёды тут шмыгаюць, як мухі лятаюць, па ўсіх каналах...

— Сіньёрыта, — сказаў міла маторшчык, — вечар вам добры, хаця не зусім добры, мы ад поўдня не плаваем, не ездзім, страйкуем, плата ў нас ніякая... Вам куды, вы горад знаеце? На Cannareggio? Гэта тут недалечка; пойдзеце ад нас направа — Lista di Spagna, мінеце Canale Grande, трошкі проста і налева будзе ваша Fondamento Cappuccine, направа Della Sensa; ужо бывалі ў нас? Канферэнцыя? Такая маладая, а ўжо вучоная! Які свет цяпер!..

Даніэль ведала як ісці. Няхай ён гаворыць, яму прыемна, што ён дапамагае, з усмешкай тлумачыць што і як, сам бы пяшком, было відавочна, пайшоў бы з гэтай мілай сіньярытай!.. Ах, італьянцы, венецыянцы! Вы не гаворыце, вы с-п-я-в-а-е-ц-е! Усе вы тут гандальеры — галасістыя, певуны-спевакі-салісты-аркестранты-баркарольшчыкі!...

Яна не заўважыла, бо не аглядалася, народ тут соценны выходзіў з Санта Лючыі... За ёю з вакзала ішоў высокі, ды так на вока глянуць-змерыць-палічыць — метраў з два росту, ячменна-аўсяная галавы — хлопец, што аж на плечы закінуў, як дзяўчына, косы, свае — заглядзенне! — валасы... Хлопец не спускаў з яе вачэй, чуў размову пра забастоўку, пайшоў за ёю крок у крок, уводдалі... Ён пабачыў яе яшчэ ў Мілане, сеў у той самы вагон, раздва прайшоўся па калідоры. Дзяўчына ўвесь час чытала... Ба, ён не папаў за ёю ў аўтобус яшчэ ў міланскім аэрапорце; на вакзале аббег усе куткі — яна стаяла па білет, «Венецыя» — пачуў; дык і ён т-у-д-ы ж! — трэба ж было гэтак усхваляваць: раз — і прапала, аўтобус паехаў! Але — вакзал — знайшлася!.. Не, не, не магло быць інакш!..

Ну, ч-а-м-у бываюць т-а-к-і-я сустрэчы! Чаму чалавек г-э-т-а-к захопіцца, абалбеціцца, га, як? Чаму? Я-к гэта пачынаецца, д-ы ад ч-а-г-о, ці ад к-а-г-о ўсё т-а-к-о-е выходзіць? Ш-т-о цябе-мяне-вас-нас цягне, што пра сябе, і дзетак забудзешся?.. Ш-т-о, х-т-о? Кажа ўсім нам: «бачна глядзі!», далей камандуе: «хутчэй, быстрэй ідзі-паспяшай!», «спяшай, не адставай, даганяй, загавары, бо знікне, бо іншы затрымае!..» Х-т-о, ш-т-о? Уключае тут нейкі магніт, лепішча-клей якісь невідочны размазвае, аэразоль якісь распыльвае, шалем-хусцінай-палатном лёгкім-лягусеньким, атласна-шоўкавым цябе-вас абтуляе, абкладае, абымае; кветкамі нейкімі, пахучымі, ружамі, ландышам абсыпае — бо ж ты гэткі запах і чуеш адкульсьці, незямны; пух-пялёсткі (півонія? чабор?) пакрываюць тваю галаву! Ногі твае пераменяцца ў дыван-самалёт цудоўны і ты панясешся-паляцішпабяжыш зямлі не дакранаючыся, а калі нават аб яе абапрэшся — дык на хвілінку, як у балеце, на пальчыкі станеш, у піруэце закруцішся!.. Што за цеплыня нейкая з'віцца-наступіць, тэмпература ў галаву ўдарыць, горач цудадзейная, вяснова-летняя, ранішняя-паўднёвая-вячэрняя, як сёння, у Венецыі, сярод мастоў, каналаў, лодак, лодачак, дзе ўсё адно слова, адно пачуццё — музыка-музыка — м-у-з-ы-к-а!.. Там, вось, і тут, каля вас-нас — гандальер прахаў, праспяваў!.. Гляньце — і т-а-м, і там — гэн — д-а-л-е-й спяваюць!.. Лета, цяплынь, баркарола, адна, другая, дзясятая!.. «Санта Лючыя, Санта-а-а Л-ю-ч-ы-я!»... Ты пачуў, чалавеча, т-а-м пяюць пра Капры, пра Сарэнта, вярнуцца просяць, бо л-ю-б-о-ў ч-а-к-а-е!..

А вось, тут гэты велікан усё і-д-з-е д-ы і-д-з-е ўслед Даніэль! Ідзе і баіцца яе перапякаць!.. Во, яна аглянулася на хвіліну, ён з-а-м-ё-р!.. А калі яна крыкне — «праследуюць!» — адыдзе! Уцячэ? Бо навошта яна яму, не знаючы і не ведаючы, га? Чаму ён с-п-я-ш-а-е за ёю як у п'янстве (хоць толькі ліманад выпіў?), і курыць н-е к-у-р-ы-ў (бо заўсім не курыць?)... Ён ад вакзала і-д-з-е, людзей перад сабой ідучых лёгка рукамі мятровымі-доўгімі р-а-з-в-о-д-з-і-ць, у снелетуценні за дзяўчынай п-л-ы-в-е!.. Хто ён сам, краса бялесая гэтая? Што на мост Cannaregio за дзяўчынай п-а-с-п-я-ш-а-е, узыходзіць, бо яна ўжо там, ужо н-а-п-е-р-а-дз-е!..

* * *

Хлопец уздрыгануў, пачуў: — Danielle, quelle surprise, enchantee! — (па-французску) — bonsoire! Je peux vous aider, votre bagage!.. Хто гэта? А-а-а, дзяўчыну так завуць! Прыгожа, незвычайна!.. А хто гэта пытае-гаворыць? Т-о-й хлопец у каляровай кашулі, праўда — мілавідны, таксама высокі, тонкі, на грэка-араба падобны, тожа француз? (Ох, ужо мне гэтыя французы! Аморшчыкі-лізуны-пахабнікі!)... І імя сказаў, дзяўчыну — выходзіць — знае... — Ды што, палез цалавацца? Ну, не ў абдымку, гэтак толькі «плюснуў» у шчочку, але ўсё ж! Адразу?.. Ну, кажу — француз! Але якім правам?.. — А я, якім правам я — амаль крычу? Ну, як т-а-к сабе! Можа, гэта брат ці сваяк! — ага — у Венецыі — і ўжо адразу брат і сваяк! Трэба сюды прыехаць, каб брата спаткаць, пэўна ж! Знаем мы такіх «братоў»!.. Чаго ён палез цалавацца? Права мае? Ды шчабеча ўсё — як сарока!..

Апавядае пра якіясьці знаходкі, што на Сіцылію ў верасні паедуць (хто гэта паедзе, яна?), што там якіясь муры-фундаменты ў зямлі (няўжо там не ўсё яшчэ выкапалі? Якіясь часткі караблёў (дзе, у зямлі?), што потым чакае індзейскае золата, ці ацтэкія багацці (было такое, але ж гэта даль-даллю, мабыць, у Мексіцы, аж туды ехаць?); якіясь карнавальныя маскі (чые — дзе? У Рыо-дэ-Жанейра? Карнавал жа там у лютым бывае); пра свята — Маркавыя мошчы ў саборы (нашто яны ім-яму-ёй?)...

— І чаму для чго сённяшні дзень «La Fete de la Victoire»? (якая перамога? над кім? над чым?), калі ён нават не ведае, што сёння серада (mercredi, яна яму сказала), а потым раптам аб'явіш, што напэўна можна будзе «сарвацца» з сабрання (ага, пэўна, хацеў бы, каб яна з ім?). Хлопец балабоніў, траскатаў, дзяўчына маўчала або гаварыла толькі «не ведаю» (je ne sais pas)... Ён зноў наступаў, дабіваўся: калі яна ад'едзе? (quand partires-vous?), дзе правядзе наступны тыдзень? (ou passerez-vous semaine prochain, — а табе знаць?), ну — успакойся жа ты, варона-балбатуха!.. І пляце ён, і тчэ-клеіць-шые — бубноць-баеры разводзіць, пагнаць бы яго!.. Ну, заўтра будзеш ведаць хто будзе выступаць, а табе ноне не ўсяроўна, гэй, вучоны ты дзяцел? Прыгожы ты хлопец, праўда, гэта відна, але ты не мучай дзяўчыну! Добра, што надумаўся валізку ў яе ўзяць, панесці?.. Ну, бач, лясну? — а які прывет? Паклон? — Danielle, je t'aime, ancor et ancor! — Paul, ne parlous plus! — вось, менавіта, «plus» не гавары, гэта ж твой «plus», н-і-к-о-л-і і т-а-к, чуеш, т-а-к табе сказаці а ты сілай прэш! І не крычы — не плач, што гэта раніць цябе «да жывога», бо я цябе заразкі даведу «да мёртвага»!.. Поль, у цябе і стаць ёсць, і краса, ну так — мілавідны ты, а не любіць цябе, ну бачыш, ты не злуй, хлопец, зразумей, такая ўжо наша мужчынская доля: нас любяць або і не! Яна н-е ц-я-б-е выглядае, круцёлка-тарадынка ты неўмаўклівая!.. Загадзіў ты сваё «жэтэм, жэтэм!» і гэта лапочаш цэлую дарогу! Ну, «не жэтэміцьа» яна цябе, кавалер ты пісаны! (ну, лялька ты, хлопча, сорт першы, але тут, бачыш, як — сілай што возьмеш? Сэрца яе не ляжыць, адстань, у другую ўлюбіся, французу!)... А вам, Даніэль, цікава! — колькі дзён тут быць, сядзець, хадзіць па горадзе будзеце? Нешта і мне т-р-э-б-а прыдумаць, паглядзець, калі канчаеце ў гэты дзень вашы мовы-дэбаты, археалогію калі закрываеце? Калі будзеце выходзіць, калі мне да вас падысці?..

(працяг будзе)

ISSN 0546-1960